АВЯР'ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ

# Веснавей



Песні і вершы

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1994



---

*Гляну, гляну я ў вочы твае —*
*І ад радасці сэрца пяе*

## РАДЗІМА

Радзіма, Радзіма,
Мяне нарадзіла
Ты ў гэтым цудоўным куточку,
Дзе рэчкі, крыніцы
Бруяцца з зямліцы
І спеюць ігрушы ў садочку.

Радзіма, Радзіма,
Мяне ты вадзіла
Па ўзгорках лясістых і пожнях,
Тут з кветкай, травінкай,
Націнкай, былінкай
Часінамі гутарыў з кожнай.

Радзіма, Радзіма,
Як з маці адзінай,
З табой я спакойны, багаты
І сніць буду вечна
Крыніцы і рэчкі,
Садочак зялёны ля хаты.

## ВЁСКА ПУСТАЯ

Вёска пустая,
Нідзе ані гуку,
Хаты-сіроткі стаяць,
Вецер лятае
І сее дакуку,
Глянеш — і слёз не стрымаць.

Божа мой, Божа,
Што гэта такое?..
Слоў адказаць не знайду,
Хто дапаможа
Няшчасце людское,
Гора адолець, бяду?

Нейкая сіла,
Навала, разруха
Выгнала з котлішча ўсіх,
Сэрцу няміла,
Самота і скруха,
Бусел на дрэве заціх.

Вёска пустая,
Нідзе ані гуку,
Хаты-сіроткі стаяць,
Вецер лятае
І сее дакуку,
Глянеш — і слёз не стрымаць.

## БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ

Абяднелая,
Апусцелая
І змарнелая мая,
Неўгамонная,
Непакорная
Беларуская зямля!

Ты затоптана,
Пературптана
І залітая крывёй,
І чужацкаю,
І бядацкаю
Невіноўнаю сваёй.

Рукі скручвалі,
Секлі, мучылі
Душагубы ўсіх масцей,
Сведкі жорсткасці,
Лютай пошасці —
Курганы з людскіх касцей.

Абяднелая
І змарнелая,
Непакорная мая,
Неадольная
І свабодная
Беларуская зямля.

## ДЗЕ ТЫ,
## МОЙ ЖАЎРУК?

Песні жаваронaчка
Штосьці не чуваць,
Без яе і нівачка
Стала сумаваць.

Дзе ты, мой жаўрук,
Дзе твой галасок?
Песню праспявай, —
Просіць каласок.

А бывала, раніцай
Птушка зазвініць —
Сонца заўсміхаецца,
Слухае, глядзіць.

І сумуе золакам
Бледны маладзік —
Твой жаўрук над полейкам
Праспяваў і знік.

Дзе ты, мой жаўрук,
Дзе твой галасок?
Песню праспявай, —
Просіць каласок.

## ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ

Хаджу, вандрую я,
Хаджу, вандрую я
Па лесе, па палях,
Куды, куды вядзеш,
Куды, куды вядзеш
Мяне, жыццёвы шлях?

У юным сэрцы дум,
У юным сэрцы дум
Ніколі не злічыць,
Іду я па зямлі,
Іду я па зямлі,
Дзе крок мне свой спыніць?

Цяжэй за ўсё абраць,
Цяжэй за ўсё абраць,
Прыкмеціць у хадзе
Сцяжынку хоць адну,
Сцяжынку хоць адну,
Што ў шчасце прывядзе.

І як яе знайсці,
І як яе знайсці,
І выйсці на прастор,
Каб мой жыццёвы шлях,
Каб мой жыццёвы шлях
Узняў мяне да зор?

## МОЙ КРАЙ

Дай мне напіцца,
Дай мне напіцца,
Чысты, крынічны ручай,
І пакланіцца,
І пакланіцца
Нізка ад сэрца, мой край.

Я аніколі,
Я аніколі
Не прамяняю сваю
Вольную волю,
Вольную волю,
Родную маці-зямлю.

Чую, бярозкі,
Чую, бярозкі,
Сосны, таполі шумяць,
І адгалоскі,
І адгалоскі
Матчыных песень гучаць.

Дай мне напіцца,
Дай мне напіцца,
Чысты, крынічны ручай,
І пакланіцца,
І пакланіцца
Нізка ад сэрца, мой край.

## РАДАСЦЬ

Лугі, лугі
І касагоры,
Глыбокі
Травяністы яр,
Няма тугі,
Няма і гора,
І неба сіняе
Без хмар.

Чаруе сцежка
Ранкам свежым,
Зганяю стому
З босых ног,
І ткуць
Квяцістыя мярэжы
Чабор, мядункі
Ля дарог.

І цішу будзіць
Звон сталёвы,
Пракос лажыцца,
Зноў пракос,
І клёкат чуецца
Busловы
З брыльянтаў
Зіхатлівых рос.

І водар чысты,
Як прастора,
Яго не вып'ю я
Да дна,
Няма ні смутку
І ні гора,
І радасць толькі
Ёсць адна.

## НЕ СТАНУ Я ПЛАКАЦЬ

Не стану я плакаць,
Не стану,
Бо выплакаў слёзы,
Якія з вачэй
Пасцякалі,
Як росы
З галінак бярозы.

Не стану я плакаць,
Не стану,
Не вернеш былое,
Якое з гадамі
Прамчала
І самае мне
Дарагое.

Не стану я плакаць,
Не стану,
Бо слёз не хапае,
Вясною стары клён
Заўсёды
Пад ветрам
Шуміць, расцвітае.

## ЛЮБЫ КУТ

Ідзём паціху на раку,
Трымаеш ты маю руку,
Далоню саграе далонь,
У сэрцах полымя-агонь.

Мой любы кут,
Мой любы кут,
Як хораша дваім
Нам тут.

Цалуе сонейка блакіт
І цень зганяе з-пад ракіт,
А нас ахутваюць лісты.
— Кахаю, — ціха шэпчаш ты.

І я хачу, каб паўтарыў
Ты гэта слова сотні тры,
Калі захочаш тысяч пяць,
Я слухаць буду і маўчаць.

Стаіць прывабны, стройны клён,
Да ліпы вецці хіліць ён,
Глядзіць на светлую раку,
Трымаю я тваю руку.

Мой любы кут,
Мой любы кут,
Як хораша дваім
Нам тут.

## ХТО ЯНА?

Адна, ва ўсім свеце адна,
А хто прыгажуня яна?..
А хто? — Пакуль што не скажу,
Гляджу на яе і гляджу.

Сваёю чаруе касой,
Блішчыць, серабрыцца расой,
Адметна красой завушніц,
Ірдзее святлом зараніц.

І вабіць яшчэ белізной,
Мне гутарыць хочацца з ёй,
І стан тонкі, стройны абняць,
І марыць, і побач стаяць.

Ёй песні пяюць салаўі
Ў надрэчным вясновым гаі,
Скажу, не ўтаю, хто яна —
Бярозка мая ля акна.

## МАЕ ЎСЕ ГАДЫ

Мае ўсе гады,
Мае ўсе гады,
Як дзеці мае, я зазначу,
Я не малады,
Я не малады,
Але не сумую, не плачу.

Я плакаць адвык,
Я плакаць адвык,
Скупыя на слёзы мужчыны,
Душы маёй крык,
Душы маёй крык,
Боль сэрца мой не без прычыны.

І часам настрой,
І часам настрой,
Як хмурая восень бывае,
І гэтай парой,
І гэтай парой
Вясёлыя песні спяваю.

Мае ўсе гады,
Мае ўсе гады,
Як дзеці, якіх я люляю,
Я не малады,
Я не малады,
Юнацтва не вернецца, знаю.

## ДУМА-ДУМАНЬКА

Завітаю я ў лясочак
Ранняю вясною
І прысяду на пянёчак,
Думанька са мною.

Дума-думанька,
Як мне нудненька,
Сумна і трывожна,
Выказаць не можна.

Што за ліха з хлопцам стала? —
І сама не знаю,
І нашто яго спазнала? —
Зараз гора маю.

Гора на маю галоўку,
І не без прычыны,
Лепшая мая сяброўка
Нас і разлучыла.

Дума-думанька,
Як мне нудненька,
Сумна і трывожна,
Выказаць не можна.

## ЦВІЦЕ КУСТ КАЛІНЫ

Цвіце куст каліны,
Цвіце куст каліны
Бялюсенькі,
Нашто ты пакінуў,
Нашто ты пакінуў
Мяне, раднюсенькі?

Ці я вінавата,
Ці я вінавата —
Зняверана,
Як роднаму тату,
Як роднаму тату,
Табе паверыла.

Над рэчкай каліна,
Над рэчкай каліна
Бялюсенька,
Цяпер я дзяўчына,
Цяпер я дзяўчына
Адна, аднюсенька.

## ХТО ЛЮБЫ І МІЛЫ

Маркота, маркота,
Не чутна ні слова,
І мне неахвота
Ісці ў лес вясновы.

Макрэча, макрэча,
Дождж падае золкі,
І вочы пад вечар
Заплюшчваюць зёлкі.

І сыплюць і сыплюць,
Ільюцца струмені,
Ды хутка ўжо выльюць
Апошнія жмені...

Засвеціць, засвеціць
На небе свяціла,
І прыйдзе, прывеціць
Хто любы і мілы.

## ЗАКАХАНАЯ

Па-над возерам,
Па-над возерам
Дымка сцелецца,
Тайну выказаць,
Тайну выказаць
Не асмеліцца...

Ён падумае,
Ён падумае,
Што я дзіўная,
Праставатая,
Праставатая
І наіўная.

Як спаткаюся,
Як спаткаюся
З ім на вуліцы,
Дзе вярбіначка,
Дзе вярбіначка
К дубу туліцца...

Паўглядаюся,
Паўглядаюся
На Івана я:
Здагадаецца,
Здагадаецца —
Закаханая.

## СУКЕНКА КАЛЯРОВАЯ

Мільгне сукенка каляровая
І знікне за пагорачкам,
Сцямнее ўміг і пахмурнее
Вясновым адвячорачкам.

І хваля цягнецца за хваляю
Маруднаю часінаю,
Стаю, паціху размаўляючы
З танкляваю рабінаю...

Скажы, рабіна ты духмяная,
Ці скора з-за пагорачка
Мільгне сукенка каляровая
Вясновым адвячорачкам.

## МАЁ ХВАЛЯВАННЕ

Вясной усё жыве,
Вясной усё жыве,
І ўсюды абуджэнне,
І мятлік у траве,
І мятлік у траве
Спраўляе нараджэнне.

Ні слова навакол,
Ні слова навакол,
Я голас твой не чую,
Спяваюць лес і дол,
Спяваюць лес і дол,
А я адзін сумую.

Вясною настае,
Вясною настае
Цяплынь і сонца ззянне,
Цябе мне не стае,
Цябе мне не стае,
Маё ты хваляванне.

## ПРЫЙДЗЕШ ТЫ

Суцішні, ветрык-веснавей,
Сум і бяду маю развей...

Суцехай для мяне была
І хмаркай некуды сплыла.

Апаў чаромхі яркі цвет,
Ты мне зацьміла белы свет.

Апроч цябе святла няма,
Яго чакаць ужо дарма.

Паміж палёў, лугоў, садоў
Пайду шукаць тваіх слядоў.

І як жа, як іх адшукаць? —
Травою сталі зарастаць.

А з дрэў зялёныя лісты
Казалі — прыйдзеш, прыйдзеш ты...

## УСМЕШКА

Без усмешкі тваёй
Будзе змрок над зямлёй,
Засумуюць палі,
Анямеюць гаі...

І стары, стары дуб
Звесіць долу свой чуб,
І надыдзе сухмень,
Ноч насунецца ўдзень.

Без усмешкі тваёй
Загубіў я спакой,
Дзе, не знаю, прыстаць,
Слова ласкі сказаць.

А ўсміхнешся, як май, —
І засвеціцца гай,
Заспяваю званчэй,
Як вясной салавей.

## ТЫ ЦЯПЛО ПАСЫЛАЕШ

Ты нашто завываеш,
Ты нашто завываеш,
Вееш холадам, вецер,
І нічога не знаеш,
І нічога не знаеш,
Хто даўно ўжо ў мяне на прыкмеце.

На прыкмеце ёсць краска,
На прыкмеце ёсць краска,
Як вясна маладая,
З незвычайнаю ласкай,
З незвычайнаю ласкай
Яна ў сэрца маё западае.

Западае глыбока,
Западае глыбока
І штодзень і заўсёды,
І мне робіцца лёгка,
І мне робіцца лёгка
Ад прыемнае мары-лагоды.

Ты цяпло пасылаеш,
Ты цяпло пасылаеш,
Вееш злагадай, вецер,
І цяпер добра знаеш,
І цяпер добра знаеш,
Што дзяўчына ў мяне на прыкмеце.

## КВЕТКА ВЯСНЯНКА

Барвавеў заход.
Вечарок ступаў,
І я твой прыход,
Як вясну, чакаў.
Кветка-вяснянка,
Кветка-вяснянка,
Прыходзь, прыходзь,
Як сонейка ўранку.

Хваляваўся так,
Што стрываць ледзь мог,
Я стаяў, бядак,
Паміж дзвюх дарог.

Хвілі я лічыў,
Збіўся з ліку я,
Чуў сярод начы
Пошчак салаўя.

Узыход палаў,
Слаў святло вясне,
Радасна вітаў
Твой прыход ка мне.
Кветка-вяснянка,
Кветка-вяснянка —
Прыйшла, прыйшла
Дзяўчыначка ўранку.

## КАХАЮ

Ёсць такое адно
Слова звычнае,
Слова звычнае
І прывычнае —
Кахаю.

Ёсць такое адно
Слова пэўнае,
Слова пэўнае
І напеўнае —
Кахаю.

Ёсць такое адно
Слова гучнае,
Слова гучнае,
Мілагучнае —
Кахаю.

Ёсць такое адно
Слова вечнае,
Слова вечнае,
Чалавечнае —
Кахаю.

## ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ

Мята-духмянка,
Мята-духмянка
Пахне, п'яніць,
Рэчанька ранкам,
Рэчанька ранкам
Ціха журчыць.

Поплаў зялёны,
Поплаў зялёны,
Мяккі мурог,
Шэпчуцца клёны,
Шэпчуцца клёны
Побач дарог.

Стану, прыстану,
Стану, прыстану
На беражок,
Траўкай прыбраны,
Траўкай прыбраны
Весні лужок.

Майская квецень,
Майская квецень
Пахне, п'яніць,
Вечна на свеце,
Вечна на свеце
Хочацца жыць!

## ВЕЧНА БУДЗЬ МАЁЙ

Май буяе, май бушуе,
І адно, адно прашу я:
Вечна, вечна будзь маёй
Светлай, радаснай вясной.

Шэпчуць травы лугавыя,
Шэпчуць кветкі палявыя:
Вечна, вечна будзь маёй
Светлай, радаснай вясной.

Салавейка заспявае,
І зязюлька закувае —
Вечна, вечна будзь маёй
Светлай, радаснай вясной.

Сэрца просіць, і чакае,
І адну цябе жадае —
Вечна, вечна будзь маёй
Светлай, радаснай вясной.

## НЕЗДАГАДЛІВЫ МОЙ

Ты сказаў мне, сказаў толькі слова
І пачуцці мае разбудзіў,
І шумела, спявала диброва,
Залацісты свяціў маладзік.

Вечар зорны блукаў паміж намі,
Паміж кветак цудоўнай красы,
Над гаямі, лугамі, палямі
Птушак чутны былі галасы.

Заспявалі на стройнай сасонцы
Берасцянкі ў бліжэйшым бары,
Я чакала таемнага слоўца,
Каб ізноў ты яго паўтарыў...

З непагаснай надзеяй чакала,
З марай-думкай затоенай той
І прамовіць табе падказала,
Любы мой, нездагадлівы мой.

## КУДЫ ПАЙШЛА, КУДЫ?

Куды пайшла, куды?..
А дзе твае сляды?..
Азірніся,
Супыніся.

Куды пайшла, куды?..
Мне блізка да бяды
Ў адзіноце
І самоце.

Куды пайшла, куды?..
Душою малады
Патрываю,
Пачакаю.

Куды пайшла, куды?..
І я твае сляды —
Адчуваю —
Адшукаю.

# ПАХНЕ ЧАБАРКОМ

Пахне чабарком,
Пахне чабарком,
Кветкай медуніцай,
Цёплым вечарком,
Цёплым вечарком
Свеціцца зарніца.

Месячык на небе
Ў хмары больш не зойдзе,
Шчасце наша прыйдзе,
Міма нас не пройдзе.

Ціхенька трава,
Ціхенька трава
З ветрыкам гуляе,
Кружыць галава,
Кружыць галава,
Сэрца замірае.

Пахне муравой,
Пахне муравой,
Кветкай медуніцай,
Свеціць нам з табой,
Свеціць нам з табой
Зорка-зараніца.

Месячык на небе
Ў хмары больш не зойдзе,
Шчасце наша прыйдзе,
Міма нас не пройдзе.

## НА ЛУЖОЧКУ

За ракою
Гаманкою
Кветкі ў лузе раскашуюцца,
Над вадою
З маладою
Хлопец з дзеўчынай мілуюцца.

Адвячоркам
На прыгорку,
Пад цяністаю сасонкаю
Сціх салоўка
І не шчоўкаў,
Іх заслухаўся гамонкаю.

На лужочку
Бавяць ночку
Закаханыя да раніцы
І світанкам,
Ясным ранкам
Аніяк не развітаюцца.

За ракою
Гаманкою
Кветкі ў лузе раскашуюцца,
Над вадою
З маладою
Хлопец з дзеўчынай мілуюцца.

2. Зак. 391.

## ТВАЁ ІМЯ — ВЯСНА

Я шукаў тваё імя
Па жытнёвае ніве,
Я шукаў тваё імя
Па зялёных садах,
Абыходзіў азёры,
Звалі ўперад прасторы,
Клікаў некуды шлях.

Я ішоў па сцяжыне,
Па лужку-лугавіне,
Я ішоў па сцяжыне
Ў гаманлівы лясок
І спаткаў цуда-дзіва —
Незнаёмка хадзіла —
Запрыкмеціў здалёк...

Я шаптаў тваё імя,
І яно, як святыня,
Я шаптаў тваё імя,
І цябе распазнаў,
І знайшоў выпадкова —
Зелянела дуброва,
Тваё імя — вясна.

## СПЯЁМ

Ізноў гарачынь,
Ізноў гарачынь,
Як жарам, палае,
А мы ўсё маўчым,
А мы ўсё маўчым
І толькі ўздыхаем.

Аб чым гаварыць,
Аб чым гаварыць? —
Так сказана многа,
Лепш тое забыць,
Лепш тое забыць,
Што сее трывогу.

Сплыве гарачынь,
Сплыве гарачынь,
І вечарам веснім
Спяём на зачын,
Спяём на зачын
Мы нашую песню.

## ПЕСНЯ ПЕСЕНЬ

Сонца выгляне ўміг
Над зямлёю-планетай,
Песня песень усіх
Мной дагэтуль не спета.

І яе скласці мне
Не хапала запалу,
І я ўдзячны вясне,
Што матыў падказала.

Голас я перайму
Ў песняра салавейкі
І ахвотна вазьму
Мілагучнасць жалейкі.

Падбяру ў адзін міг
Я танальнасць любую,
Песню песень усіх
Праспяваць паспрабую.

## ЖАНЧЫНА-ТАЯМНІЦА

Прыгоства і твой розум,
Табой не нахваліцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

Усмешка радасць будзіць,
Агнём жывым іскрыцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

Як глянеш раз у вочы,
І нельга ўжо забыцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

Хацеў цябе адведаць —
Ніяк не падступіцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

Рашучасць мінавала,
І мне цяпер не спіцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

І нельга мне з табою,
З табою парадніцца,
І што ты за жанчына,
Жанчына-таямніца.

## НЕ АД'ЯЗДЖАЙ

Не ад'язджай —
Нядаўна мы спаткаліся,
Не ад'язджай,
Не ад'язджай —
Мы толькі што спазналіся,
Не ад'язджай.

Не ад'язджай —
Бярозка нахілілася,
Не ад'язджай,
Не ад'язджай —
Сасонка зажурылася,
Не ад'язджай.

Не ад'язджай, —
Прашу я з самай ра́ніцы, —
Не ад'язджай,
Не ад'язджай,
Мая, мая абранніца,
Не ад'язджай.

Не ад'язджай —
З кім буду летам я,
Не ад'язджай,
Не ад'язджай,
Ты песня недапетая,
Не ад'язджай.

## ІДУЦЬ ДАЖДЖЫ

Ідуць дажджы,
Ідуць дажджы,
Ні пробліску навокал,
Мне б на цябе,
Мне б на цябе
Хоць глянуць адным вокам.

І не відаць,
І не відаць
Ніякага прасвету,
І на дварэ,
І на дварэ
Як восень, а не лета.

Я праз дажджы,
Я праз дажджы
Прайду і не спынюся,
Табе адной,
Табе адной
Я нізка пакланюся.

## ПЛАЦЕЙКА

Лецейка, лецейка
Зачароўвае,
Плацейка, плацейка
Паркалёвае.

Лецейка, лецейка
Свеціць ласкаю,
Плацейка, плацейка
Пахне краскамі.

Лецейка, лецейка
Шапатлівае,
Плацейка, плацейка
Зіхатлівае.

Лецейка, лецейка
Зачароўвае,
Плацейка, плацейка
Паркалёвае.

## ШЧАСЛІВЫ ЛЁС

Сцяжынка сцелецца,
Сцяжынка сцелецца,
Канца і краю не відаць,
І мне не верыцца,
І мне не верыцца,
Што тут нам ночку сустракаць.

Мы пад таполяю,
Мы пад таполяю
Ўдваіх прыселі і маўчым,
Такой ніколі я,
Такой ніколі я
Красы не бачыла ўначы...

На небе свецяцца,
На небе свецяцца,
Крышталі-зорачкі гараць
І з яркім месяцам,
І з яркім месяцам
На нас, цікаўныя, глядзяць.

Дзве зоркі падаюць
Дзве зоркі падаюць
Паблізу сцежкі лугавой
І мне нагадваюць,
І мне нагадваюць,
Што лёс шчаслівы твой і мой.

## ЦЮЛЬПАНЫ

Гарэў, дагараў адвячорак,
Схаваўся садок за пагорак,
Ты ў зацішку летнім духмяным
Дарыў мне на памяць цюльпаны.
    Цюльпаны, чырвань-цюльпаны,
    Як хораша закаханым.

Зацíхнуў увечары ветрык,
Глядзеў з неба яснага ветах,
І зоры-заранкі мігалі,
Як быццам абоім казалі:
    Цюльпаны, чырвань-цюльпаны,
    Як хораша закаханым.

Пастаўлю я кветкі на столік
І ўспомню цябе, мой саколік,
Ты ў зацішку летнім духмяным
Дарыў мне на памяць цюльпаны.
    Цюльпаны, чырвань-цюльпаны,
    Як хораша закаханым.

## НЕ ВЕДАЮ САМ...

Думаў я, што ты рабіна,
Вецці схіляеш на дол,
Шчокі, як ягадкі-гронкі,
Чырванню ззяюць наўкол.

Думаў я, што ты сунічка,
Слодыч на вуснах, як мёд,
П'ю я яе, не нап'юся
Ўжо з незапамятных год.

Думаў я, што ты бярозка,
Косамі твар абаўеш,
Ручкай махнеш, як галінкай,
Ціхенька, шэптам завеш.

Хто ты: рабіна, сунічка,
Можа, бярозка-краса,
Вабіш сваёй белізною,
Хто ты? — Не ведаю сам.

## ПАКУЛЬ КАХАЮ — Я ЖЫВУ

Ільюцца кропелькі-расінкі
Ў тумане раннім на траву,
Жыву я ў гэтыя часінкі,
Пакуль кахаю — я жыву.

І сэрца б'ецца роўна, роўна,
І пульс ягоны не спадзе,
Мяне з харошаю, чароўнай
Дарога светлая вядзе.

І шлях не блізкі, а далёкі,
І нам сумесна не прыстаць,
Над намі белыя аблокі,
Як гусі-лебедзі, ляцяць.

І сонца свеціць, сонца грэе
І лашчыць промнямі траву,
Пакуль кахаю — не старэю,
Пакуль кахаю — я жыву.

## НЕЗАБЫЎНЫ, МІЛЕНЬКІ

Прыязджай, мой міленькі,
Прыязджай, мой міленькі,
Родны, незабыўненькі,
Родны, незабыўненькі.

Прыязджай на коніку,
Прыязджай на коніку,
Добры мой сакоііку,
Добры мой сакоііку.

Прыязджай машынаю,
Прыязджай машынаю
Гэтаю часінаю,
Гэтаю часінаю.

Прылятай на крылейках,
Прылятай на крылейках,
Незабыўны, міленькі,
Незабыўны, міленькі.

## ЛЯ КРЫНІЧАНЬКІ

Асядлаю каня
Я рысістага,
Паскачу праз лясы
Ў поле чыстае.

Ой ты, верны мой конь,
Служка слаўненькі,
Хутка, хутка вязі
Да каханенькай.

Капыты цок-цок-цок —
Б'юць падковамі,
Сустракае ў гайку
Чарнабровая.

І пушчу я каня
На травічаньку,
Пастаю з маладой
Ля крынічаньі.

## ТЫ АДКУЛЬ ПРЫЙШОЎ?

Ты адкуль прыйшоў
Нечакана,
Ты адкуль прыляцеў,
Ці здалёк?
Зажывала на сэрцы
Рана,
На яе кінуў солі
Драбок.

Я цябе даўно
Зразумела,
Не таварыш ты мой
І не друг,
Я адна гадамі
Марнела,
Што было паміж намі,
Сатру...

Вечар той навекі
Закрэслю,
Што часова
З табою злучыў,
І забуду твой голас
І песню,
Пець якую любіў
Мне ўначы.

Ты адкуль прыйшоў
Нечакана,
Ты адкуль прыляцеў,
Ці здалёк?
Зажывала на сэрцы
Рана,
На яе кінуў солі
Драбок.

## АДНА ДАРОГА

Паверым, паверым,
Што будуць спатканні,
Паверым, паверым,
Што будуць расстанні,
Паверым, паверым,
Што будуць разлукі,
Сардэчныя мукі.

Паверым, паверым —
Жыццё — нечаканасць,
Паверым, паверым —
Не вечная радасць,
Паверым, паверым —
Прыходзяць няўдачы
З бядою і плачам.

Паверым, паверым,
Што будуць спатканні,
Паверым, паверым,
Што будуць расстанні,
Але ненадоўга,
Звядзе назаўсёды
Адна нас дарога.

## ГАРАЧЫХ СЛОЎ НЯМА

Гарачых слоў няма,
Чакаць мне іх дарма,
Іх не пачую,
Няма і тых вачэй,
Ярчэйшых зор ярчэй,
І я сумую.

Развее хто мой сум,
Куды яго знясу
І дзе пакіну?
І не забуду я
Ўначы спеў салаўя,
Яе, дзяўчыну.

Я стану над ракой,
Дзе мы хадзілі з ёй
Аж да світання,
Гарачых слоў няма,
Чакаць мне іх дарма,
Чакаць спаткання.

## ВОЧЫ

І нашто было, вочы,
Так глядзець на мяне,
І нашто было ўночы
Абуджаць мяне ў сне?

І чаго было ранняй
Усміхацца зарой
І сваім заляцаннем
Весці ўслед за сабой?

Без вас, вочы, сумую,
Сірата сіратой,
І пабачыць хачу я
Погляд радасны твой.

І нашто было, вочы,
Вам мяне чараваць
Ясным днём, цёмнай ноччу,
А пасля забываць?

## ПАРА РАССТАННЯ

Сонейка і свеціць
І не свеціць,
Дожджык дробненькі
Смугой імжыць,
Як жа буду я
На белым свеце,
Як жа буду
Адзінокі жыць?

Ты была мне
І шчаслівай доляй,
Светлым днём
Вясновым, залатым,
Без цябе пасохнуць
Кветкі ў полі,
Звянуць дрэў
Зялёныя лісты.

Над зямлёй ты
Ластаўкай лятала,
Шчабятала,
Пела на зары,
Ды пара расстання
Нам настала,
І няма самотней
Той пары.

Сонейка і свеціць
І не свеціць,
З неба дождж дробненькі
Імжыць,
Я хачу,
Хачу з табой на свеце
Радавацца,
Песні пець і жыць.

## КАЛІ Б Я ЗНАЎ

Калі б я знаў,
Калі б я знаў,
Што будзеш ты маёй,
Узняўся б я,
Узняўся б я
На крылах над зямлёй.

Цябе з сабой,
Цябе з сабой,
Як хмарку ў неба сінь,
У шыр-прастор,
У шыр-прастор
Узяў бы ў далячынь.

Калі б я знаў,
Калі б я знаў,
Што ты мая навек,
То б першым быў,
То б першым быў
На крылах чалавек.

## АГЕНЬЧЫК МОЙ ГАРЫЦЬ

Кастры распальвалі,
Кастры распальвалі,
Агні гарэлі на дваіх,
А мы падкладвалі,
А мы падкладвалі
Ігліцы і сушняк на іх.

Шугала полымя,
Шугала полымя
Ажно да неба, ясных зор,
І я запомніла,
І я запомніла,
Як раптам згас яго касцёр.

Дымок марудлівы,
Дымок марудлівы
Наўкольны дол увесь заслаў,
І мой пакутлівы,
І мой пакутлівы
Адзін яшчэ касцёр палаў...

Надзеі рухнулі,
Надзеі рухнулі,
А мне не хочацца тужыць
Кастры патухнулі,
Кастры патухнулі,
Але агеньчык мой гарыць.

## ЧАКАЮ

Твайго я прыходу чакаю,
Ні хвілі спакою не маю,
Ні хвілі спакою не маю.
Ты, можа, чароўнаю белай
Чаромхай зрабіцца паспела,
Цябе не відаць,
Цябе не чуваць.

Час цягнецца гэтак марудна,
На сэрцы мне вельмі пакутна,
На сэрцы мне вельмі пакутна.
Ты, можа, чароўнаю белай
Чаромхай зрабіцца паспела,
Цябе не відаць,
Цябе не чуваць.

Прыйсці ты дала абяцанне,
Цяпер для мяне хваляванне,
Цяпер для мяне хваляванне.
Ты, можа, чароўнаю белай
Чаромхай зрабіцца паспела,
Цябе не відаць,
Цябе не чуваць.

Пабачыць цябе я жадаю,
Як птушкі прылёту, чакаю,
Як птушкі прылёту, чакаю.

Ты, можа, чароўнаю белай
Чаромхай зрабіцца паспела,
Цябе не відаць,
Цябе не чуваць...

## ХТО ПАШКАДУЕ?

Гэтак мне не шанцуе,
Хто мяне пашкадуе,
А ці татачка,
А ці мамачка,
Ці раднюсенькі
Любы братачка?

Вечарочкам і ночкай
Ціха, ціха ў садочку,
Я да вішанькі
Невяліканькай
Нахіляюся,
Прытулюся.

Ты скажы мне, вішанька,
Пазбаўлюся ліханька:
Хто пашкадуе
Ды маладую,
Татка, мамачка
Ці раднюсенькі хлопец Яначка?

## ЗА ЎСЁ ПРАБАЧ

Не плач, слёз не лі, не плач,
За ўсё мне, за ўсё прабач,
За гэту цёмную ноч,
Што мы не змружвалі воч,
Не плач, не плач,
За ўсё прабач.

Няўважлівы, можа, быў,
Не горача я любіў,
Цяплом не сагрэў сваім,
Што дадзена нам дваім.
Не плач, не плач,
За ўсё прабач.

Не ссохнуць пацеркам слёз,
Не змерзнуць ім і ў мароз,
Як слёз не відаць, няма,
Кахання чакаць дарма.
Паплач, паплач,
За ўсё прабач.

## НА ПАЧАТКУ ЛЕТА

Зелянеліся,
Зелянеліся
Травы паміж кветак,
Мы сустрэліся,
Мы сустрэліся
На пачатку лета.

Усміхаліся,
Усміхаліся —
Добрая прыкмета,
Закахаліся,
Закахаліся
На пачатку лета.

Мы здзіўляліся,
Мы здзіўляліся,
Як жылі дагэтуль,
І спазналіся,
І спазналіся
На пачатку лета.

Мы здружыліся,
Мы здружыліся,
Цеплынёй сагрэты,
Парадніліся,
Парадніліся
На пачатку лета.

## НЕ БУДЗЕШ ЗАБЫТА

Хмурынкамі неба,
Блакітам расшыта,
Што сказана мною,
Табой не забыта...

Ты ўсё зразумела,
Дык дзякуй за гэта,
Мая незабудка
Гарачага лета.

Штось вербы шапталі
Ў вячэрнім сутонні,
І я добра помню
Былое сягоння...

Хмурынкамі неба,
Блакітам расшыта,
Ніколі ты мною
Не будзеш забыта.

## ЗАБЛУДЗІЎСЯ МЕСЯЦ

Заблудзіўся месяц
Паміж цёмных хмар,
Ты згадаць не здолееў
Патаемных мар...

Я жыла надзеяй,
Радасцю жыла,
Трошачкі наіўнай,
Як дзіця была...

Верыла, чакала,
Што надыдзе час —
Непарыўна зблізіць
І навекі нас.

Заблудзіўся месяц
Паміж цёмных хмар,
Ты згадаць не здолееў
Патаемных мар.

# НАДЗЕЯ

Паверыць, паверыць
Мне сэрца не хоча,
Што ўсё, што было
Паміж намі, праходзіць —
Не ўбачу цябе
Ані ўдзень, ані ўночы,
І сонца надзеі
За хмары заходзіць.
Свяці мне, свяці,
Надзея, ў жыцці,
Свяці мне, свяці.

Не верацъ, не верацъ
Ні кветкі, ні травы,
Якія глядзелі на нас
На лужочку,
Што ўжо не пачую
Твой голас ласкавы
І я застануся
Адзін, адзіночкай.

І верыць, паверыць
Не хоча разлука,
Яна не на векі вякоў.
І бывае —
Сплятуцца ў абдымкі
Гарачыя рукі —

Мне сэрца падказвае
І адчувае.
Свяці мне, свяці,
Надзея, ў жыцці,
Свяці мне, свяці.

## МАЛІНА

Маліна, маліна, маліна
Салодкай, духмянай была,
Нязвычнай ліхою часінай
Любоў непрыкметна сплыла.
Сплыла любоў,
Нібы вада,
Ой, жаль, ой, жаль,
Яе шкада.

Чырвоных, чырвоных, чырвоных
Нямала даспела малін,
Я іх сабіраў улюбёны
З табою ўдваіх, не адзін.

Вярніся, вярніся, вярніся
Такою, любоў, як была,
Як ранняй вясною калісьці
Ў садочку маліна цвіла.
Сплыла любоў,
Нібы вада,
Ой, жаль, ой, жаль,
Яе шкада.

3. Зак. 391.

## ЦІШЫНЯ

Цішыня, цішыня
Сярод яснага дня,
Мы ідзём па ляску,
Па густым вераску.
    Верасы, ружовыя верасы,
    Валасы бялявыя, валасы,
    Ты прыйшла, ты прыйшла на свет
    І адкрыла мне белы свет.

Цішыня, цішыня,
Ты і я, ты і я,
Толькі тут мы ўдваіх,
Нават вецер заціх.

Цішыня, цішыня,
Прамінула паўдня,
Спаць збіраецца дзень.
Да нас вечар ідзе.
    Верасы, ружовыя верасы,
    Валасы бялявыя, валасы,
    Ты прыйшла, ты прыйшла на свет
    І адкрыла мне белы свет.

## ЦІША

У садзе асеннім
Сціхлі лісты,
Не піша, не піша
Пісьмы-лісты,
Не піша, не піша,
За вокнамі ціша.

Не стукне, не грукне
Ў акно паштальён,
Не скажа ні слова,
Паўслова ён,
Каханак не піша,
За вокнамі ціша.

Сама я, сама
Яму напішу,
Сама я, сама
Яго папрашу:
— Адкажаш, напішаш? —
За вокнамі ціша.

# ПРЫЙШЛО ПІСЬМО

Прыйшло пісьмо сардэчнае,
Такое чалавечнае,
Тры словы ў ім жаданыя —
Чакай мяне, каханая.

Пахмурная аколіца
Святлей адразу робіцца,
І птушкі заліваюцца,
Пяюць, не сунімаюцца.

Сінее неба чыстае,
Хмурынкай залацістаю,
Паплыць бы з вамі, воблакі,
Ў той край, дзе друг мой родненькі.

Прыйшло пісьмо сардэчнае,
Такое чалавечнае,
Тры словы ў ім жаданыя —
Чакай мяне, каханая.

## ХУТКА ВЯСЕЛЛЕ

Зазелянелі,
Зазелянелі
Ўжо лугавінкі,
Паружавелі,
Паружавелі
Шчокі дзяўчынкі.

Зазелянелі,
Зазелянелі
Пышна лужочкі,
Папрыгажэлі,
Папрыгажэлі
Зорачкі-вочкі.

Зазелянелі,
Зазелянелі
Ў садзе галінкі,
Хутка вяселле,
Хутка вяселле
Ў мілай дзяўчынкі.

## МАРА

Неба такое чыстае,
Хмаркі ніводнай, сіняе,
Восень паляны
Ўбірае
Чырванню яркай
Асінавай.

Лётаюць
Ніткі танюткія,
То павуціны белыя,
Ціха сініцы
Ціліўкаюць
Галасамі нясмелымі.

Вецер спагадлівы,
Цёплы
Грае
З сухою лістотаю,
Я прысядаю на ўзлеску
І засынаю з ахвотаю.

Сніцца мне неба сіняе,
Чыстае неба весняе,
Птушкай ка мне
Прылятаеш ты,
Марай маёю
І песняю.

## ЧАРАВІЧКІ МАЕ

Чаравічкі мае
З вузкімі насамі,
Выйду, выйду ў круг шырокі —
Ногі ходзяць самі.

Чаравічкі мае,
Іх абула ў свята,
Жаніхоў маіх не злічыш,
Дужа іх багата.

Чаравічкі мае —
Ляскаюць падкоўкі,
Хоць прыгожая не вельмі —
Галасочак тонкі.

Чаравічкі мае
Са мной разам скачуць,
Аднаго я пакахала,
А чацвёра плачуць.

Чаравічкі мае
Золатам расшыты,
Паміргаю трохі Янку,
А пасля Мікіту.

Чаравічкі мае
З вострымі насамі,
Я лятаю, як пушынка,
Ногі ходзяць самі.

## МНЕ ПАВЕР

Я сваіх дарог
Аніяк не мог
Абысці,
Яшчэ многа іх,
І цяжкіх, крутых,
У жыцці.

Пойдзеш па адной,
Цёмнай лесавой,—
Змрок і страх,
А куды ідзе,
А куды вядзе
Гэты шлях?

Шляхам я пайду,
Ціха пабрыду
Праз раку,
Абапруся там,
Дзе праходзіць нам
На руку...

На тваю руку
Буду на вяку
Мець намер,
І рукі прасіць,
І цябе любіць,
Мне павер.

## ГОРА ЎТАПЛЮ

Такое, такое шырокае
Хвалюецца, плешчацца мора,
Такое, такое вялікае
Са смуткам, пакутаю гора.
Я мора люблю,
Я мора люблю
Бязмерна, бясконца,
І гора ўтаплю,
І гора ўтаплю
На самае донца.

Такое, такое прывабнае
І ціхае, ціхае мора,
Бы лета кароткае бабіна
З празрыстым, блакітным прасторам.

Такое, такое бурлівае
І шумнае, шумнае мора,
Жыццё надыходзіць шчаслівае,
Як пройдзе і смутак і гора.
Я мора люблю,
Я мора люблю
Бязмерна, бясконца,
І гора ўтаплю,
І гора ўтаплю
На самае донца.

## ТРЭБА ЖЫЦЬ

Даруй, даруй
За ўсё, што пражыта,
А трэба жыць
І ўвосень сеяць жыта.

Калі не так
Падчас рабіў, як людзі,
Мая любоў,
Давай пра ўсё забудзем.

Нам разам быць,
І з намі нашы дзеці,
А што важней
Яшчэ за іх на свеце?

Даруй, даруй
За ўсё, што пражыта,
А трэба жыць
І ўвосень сеяць жыта.

## МОЖА, І РАШУСЯ

Я адважуся,
Я адважуся,
Можа, і рашуся —
З маладзенькаю,
З маладзенькаю,
Мабыць, ажанюся.

Людзі кажуць мне,
Людзі кажуць мне:
Не рабі ты ліха,
Я не слухаю,
Я не слухаю,
Абы толькі ціха.

Сваю вішаньку,
Сваю вішаньку,
Мілую каханку
І цалую я,
І цалую я
З вечара да ранку.

Я адважуся,
Я адважуся,
Можа, і рашуся —
З маладзенькаю,
З маладзенькаю,
Дзед сівы, жанюся.

## НА СЭРЦЫ РАНА

Я прачнулася рана —
Ныла на сэрцы рана,
Ныла і турбавала,
Вельмі ўжо хвалявала.

А чаму ныла рана? —
Раўнавала Сцяпана,
Ходзіць да маладзіцы
Пень стары маладзіцца...

Спрабавала ўгаворваць,
А ён мне і гаворыць:
Чужы мёд саладзейшы,
Добра мне з маладзейшай.

Я прачнулася рана,
Ныла на сэрцы рана,
Памяняю Сцяпана
На суседа Дзям'яна.

## ЧАБАРОК

Чабарок, чабарок
Ля палянечкі,
Ты дарыў, ты дарыў
Абяцаначкі.

Чабарок, чабарок
Над разорамі,
Назаляў, назаляў
Угаворамі.

Чабарок, чабарок
Прагна нюхала,
Слоў пустых, слоў пустых
Я не слухала.

Чабарок, чабарок
Быў пакошаны,
Знік хітрун, знік хітрун
Мной не прошаны.

# Я КІРПАТАГА ЛЮБЛЮ

Твой, кажуць, хлопец
Маленькі ростам,
З мяне смяюцца — я цярплю,
Хоць ён маленькі,
А мне міленькі,
І я маленькага люблю.

Твой, кажуць, хлопец
Не мае сілы,
З мяне смяюцца — я цярплю.
Нашто мне сіла,
Калі мне мілы,
І я слабенькага люблю.

Твой, кажуць, хлопец
Занадта ціхі,
З мяне смяюцца — я цярплю,
Мне добра з ціхім,
Не знаю ліха,
І я ціхмянага люблю.

Твой, кажуць, хлопец
Яшчэ й кірпаты,
З мяне смяюцца — я цярплю,
Не лепш насаты,
Куды ён варты?
І [redacted] кірпатага люблю.

## ДУРНІЦА

Няма розуму, развагі,
Толькі плёткі і знявагі...
Ой, дурніца,
Ой, дурніца,
Шаляніца,
Шаляніца.

І лухту пустую меліць,
Хоць каго яна ачэрніць.

Не сціхае хвілі баба,
Язык доўгі, як у жабы.

Гэткае ў яе шаленства —
Аж да старасці з маленства.

Шум і гам заўсёды ў хаце,
Як з такой век дажываці.

Балабонка, балабонка —
У майго суседа жонка.
Ой, дурніца,
Ой, дурніца,
Шаляніца,
Шаляніца.

## ГАВАРЫ КРУГЛА

**З народнага**

Ехаў з бацькам
Дзеўку сватаць
Бедны сын, сярмяжны,
На вазку стары
Сыночку
Гэтак з ласкай кажа:
— Гавары з нявестай,
Сватам кругла,
Мой міленькі,
А інакш цябе палічаць
Нават і дурненькім.

Завітаў жаніх
У хату,
Вытрашчыў ён зрэнкі,
Гаварыў,
Аж вушы вянуць,
Быццам бы маленькі:
— Бочкі, колы
Шлях закрылі,
Ледзь да вас з'явіўся,
Перад самым
Вашым домам
І гарбуз каціўся...

Сват стаяў,
Як абамлелы

І абліты потам...
— Ну, Марыля,
Выйдзеш замуж?
— Коціцца хай котам...

## ДЗЕД І БАБА

**З народнага**

Дзед гарох латашыў...
— Ой, салодкі, бабка, ён.
— Ненажэра, стары,
Абарвеш увесь загон.
— Ты гароху спытай,
Вазьмі, бабка, на зубок.
— Ах, назола, адстань,
Бо няма зубоў, дзядок.
— Як, бабулька, няма? —
Захістаў дзед барадой...
Ты ж зубатай была
Ой, зубатай маладой.

## БЕЛАРУСКАЯ ЯДА

Завітала каляда,
Беларуская яда —
Каўбаса дамашняя
Вельмі, вельмі смачная.
Смаката, смаката,
Любата, любата.

Каўбасу каштуе дзед,
А за ім старая ўслед,
І застолле поўніцца,
Чарка ёсць і водзіцца,
Смаката, смаката,
Любата, любата.

— З табой, дзедка, мне бяда,
То ж гарэлка, не вада...
Дзед на бабку косіцца —
Выпіць дужа хочацца.
Смаката, смаката,
Любата, любата.

Завітала каляда,
Беларуская яда —
Каўбаса дамашняя
Вельмі, вельмі смачная.
Смаката, смаката,
Любата, любата.

## А БЫЛО ДЗЯЎЧАТ ЧАЦВЁРА

У мяне дзяўчат чацвёра
Закахаліся заўчора,
Я назначыў ім спатканні:
Днём адной, другой уранні...

Разлічыў не так гадзіны —
Раніцой не ўбачыў Зіны,
Час і днём я пераблытаў —
Адраклася Маргарыта.

Джгаў да трэцяй цёмнай ноччу,
Выпадкова ў рэчку скочыў,
Ад чацвёртай — свет нямілы,
Кажа: я ўжо разлюбіла.

А было дзяўчат чацвёра,
Ні адной няма на гора,
Я і сам сабе не рады,
Ой, сумую, дайце рады.

## РАЎНІВЕЦ

### З народнага

Як раўнівец
Ажаніўся,
То адразу
Зажурыўся:
Трэба жонку
Зберагчы,
А таму вось
На плячы
Носіць жонку
За плячыма
Дваццаць год
Без супачыну
Ў велізарным кашалі
Там, дзе пойдзе па зямлі.

Раз пайшоў
Раўнівы ў лес,
А ў кашэль
Сусед залез
І там з жонкаю
Сядзіць...
Муж рашыў
Крыху спачыць,
Ён кашэль на пень паставіў,
У кашэль
Раптоўна глянуў
І вачам сваім

Не верыў:
Ой, якога
Ўбачыў звера...

— Ты чаго залез,
Сусед?!
— Жонку я тваю
Як след
Памагаю
Зберагаць,
Каб не стаў ты
Раўнаваць!

## Я Ў ГАСЦЯХ ПАБЫВАЛА

Я ў гасцях пабывала,
Танцавала, спявала,
Карагоды вадзіла,
Спадабаўся мне мілы.
Частаваў мяне мядком,
А яшчэ і агурком,
Ад мядку і агурка
Нарадзіла я сынка.
Я ў гасцях пабывала,
Хлопца там напаткала,
Гэткі ён маладзенькі,
Гэткі ён саладзенькі.
Частаваў мяне мядком,
Вельмі смачненькім сыркам,
Ад мядку і ад сырка
Нарадзіла я сынка.
Я ў гасцях пабывала
І ўсю ночку праспала,
Мілы мой летнім ранцам
Запрасіў на сняданне.
Частаваў мяне мядком
І вялізным шчупаком,
Ад мядку і шчупака
Нарадзіла я сынка.
Ад частункаў ад такіх
Маю дзетак я траіх.

## А Я Ў СОЖЫ КУПАЛАСЯ

А я ў Сожы, а я ў Сожы
Купалася,
Збоку хлопец плыў прыгожы —
Ўглядалася.

Плыла рэчкай быстрацечнай —
Тамілася,
Вось папаўся бессардэчны —
Дзівілася.

Я танула той хвілінай —
Спужалася
І не знаю, як хлапчыне
Папалася.

На руках мяне трымае
І гушкае,
Шызакрылай называе
Ён птушкаю.

А я ў Сожы, а я ў Сожы
Тапілася
І вось з хлопцам тым прыгожым
Зраднілася.

## СЭРЦА МОЛАДА

Ручаі цякуць,
Ручаі цякуць,
Не спыняюцца,
І гады ідуць,
І гады ідуць,
Не вяртаюцца.

Ой, гады, гады,
Ой, гады, гады,
Вы спыніцеся,
Стану маладым,
Стану маладым,
Не дзівіцеся.

І пайду скакаць,
І пайду скакаць
З маладзенькаю,
Барадой хістаць,
Барадой хістаць
Ды сівенькаю.

Што мне барада,
Што мне барада —
Расце змоладу,
Гэта не бяда,
Гэта не бяда —
Сэрца молада.

## ДАЙ ПАРАДУ

Падкажы ты параду,
Падкажы накірунак,
Дай надзейную раду,
Як душэўны ратунак...

І куды мне пайсці,
Дзе спыніцца, прыстаць,
Верны шлях у жыцці,
Свой куток адшукаць?

Што маўчыш, ці забыўся
Пра гарачыя стрэчы,
Як ты кляўся, бажыўся —
Будзеш другам сардэчным.

Не хачу я вымольваць
Тваёй шчырасці, ласкі,
Мяне можаш здаволіць,
Дай параду, падказку...

І куды мне пайсці,
Дзе спыніцца, прыстаць,
Верны шлях у жыцці,
Свой куток адшукаць.

## МОЙ СОКАЛ

Не ляці ад мяне
Далёка,
Папрашу я цябе,
Мой сокал.

Не ляці ад мяне
Высока,
Не змагу я пачуць
Твой клёкат.

Не ляці ад мяне
Днём ясным,
Прада мной белы свет
Пагасне.

Не ляці ад мяне
Далёка,
Быць з табою хачу,
Мой сокал.

## НЕПАКОІШ МАЮ ГАЛАВУ

Ціха, ціха наўкола,
Сонца траўку цалуе.
Светлавокая рэчка журчыць,
Мне чамусь невясёла,
Хто мяне пашкадуе?
У адказ дол таемна маўчыць.

Ты расстаўся надоўга,
Можа, і назаўсёды,
Хто прылашчыць, прыгрэе мяне?..
І як тая нябога
Недалёка ад броду
Я стаю, пастаю ў старане.

Вечар ступіць туманны
На раскошныя пожні
І акрые траву-мураву.
І нашто ты, жаданы,
Мой харошы, прыгожы,
Непакоіш маю галаву.

## ДАРУЙ, МОЙ ДРУЖА

Я не вінавата,
Я не вінавата,
Я не вінавата ні ў чым,
Хоць ты не сасватаў,
Хоць ты не сасватаў,
А ўсё-ткі я ў сэрцы тваім.

Даруй мне, мой дружа,
Даруй мне, мой дружа,
Што вельмі калючай была,
І як тая ружа,
І як тая ружа
Цвіла я і не адцвіла.

Цвіту і красую,
Цвіту і красую,
Хачу красаваць і далей,
І сэрца дарую,
І сэрца дарую
Табе, хто за ўсіх даражэй.

## БЫЛОЕ ЎВАСКРЭСНЕ

Калі наплывае,
Калі наплывае
Туман над ракой,
Баян парушае,
Баян парушае
Мой звычны спакой.

Мелодыя-песня,
Мелодыя-песня
Гучыць, хоць без слоў,
Былое ўваскрэсне,
Былое ўваскрэсне
Між намі ізноў.

І падаюць гукі,
І падаюць гукі
Ў траву і расу,
І горыч разлукі,
І горыч разлукі
Цярпліва нясу.

Плыве, наплывае,
Плыве, наплывае
Туман над ракой,
А сэрца жадае,
А сэрца жадае
Вярнуць мне спакой.

## ПРЫГАЖОСЦЬ

Есць на свеце многа,
Многа прыгажосці,
Прыгажосць адна мяне
Чаруе штосьці,
Хто ж яна такая? —
Косы за плячамі —
Прыгажосць, як неба,
З сінімі вачамі.

Гляне, паглядае —
Кветка маладая,
І я днём і ўночы
Патанаю ў вочах,
Патанаю, тону,
Бы ў глыбокім моры,
Толькі адчуваю
Весялосць, не гора.

Есць на свеце многа,
Многа прыгажосці,
Прыгажосць адна мяне
Чаруе штосьці,
Радаснае мне
Прыносіць суцяшэнне,
Цеплыню, нібы
Ад сонечных праменняў.

## МАЛАДОСЦЬ

Ёсць надзея, ёсць,
Значыць — маладосць
Не прайшла мая,
Весялюся я.

На палі ступлю,
Горача люблю
Каласоў разліў
І раскошу ніў.

Бачу я здалёк
Сіненькі вянок
На галоўцы той
Пышна-залатой.

Чую звонкі смех
Для душы, для ўцех,
Ёсць надзея, ёсць,
Значыць — маладосць.

## Я ЯШЧЭ СПЯЮ

Я яшчэ спяю,
Я яшчэ спяю
Тую і адзіную,
Лепшую сваю,
Лепшую сваю
Песню лебядзіную.

Па жыцці ісці,
Па жыцці ісці —
Цяжкасці нязвычныя,
Як яе знайсці,
Як яе знайсці,
Песню меладычную?

Маладосць губіў,
Маладосць губіў,
У агні згараючы,
Мала я любіў,
Мала я любіў,
Жыў я, паміраючы.

Я яшчэ спяю,
Я яшчэ спяю
Тую і адзіную,
Лепшую сваю,
Лепшую сваю
Песню лебядзіную.

4. Зак. 391.

## Я НАРОДЖАНЫ ЖЫЦЬ

Я народжаны жыць
І тварыць
І не знаю ніколі
Самоты,
Мне ніводнага дня
Не прабыць
Без любімай,
Натхнёнай работы.

Выбіраю
Для розуму, рук
Тую справу,
Якая мне гожа,
Што не здолею сам,
Мне сябрук
Мой надзейны і шчыры
Паможа.

Я такім ганаруся
Жыццём:
Да ста год
Юным быць, не іначай,
Прыйдзе смерць,
Я скажу ёй: — Спяём,
Уцячэ яна прэч
І заплача.

## НЕ БЯДУЙ

Не крыўдуй, не крыўдуй —
Адквітнелі сады,
Праляцелі былыя гады,
Не бядуй, не бядуй.

Не крыўдуй, не крыўдуй —
Выпаў нам гэткі лёс,
Дараваў у жыцці многа слёз,
Не бядуй, не бядуй.

Не крыўдуй, не крыўдуй,
Што прайшла маладосць,
Ёсць запал і няўрымслівасць ёсць,
Не бядуй, не бядуй.

## ЗАЙГРАЕ ГАРМОНІК

Заціхнуў над рэчкай,
Заціхнуў над рэчкай
Сасоннік,
Маўчыць, не спявае,
Маўчыць, не спявае
Гармонік...
Не чутны, не чутны
Напеў галасісты —
Красуня не любіць
Ужо гарманіста.

Ён пройдзе паціху,
Ён пройдзе паціху,
Не йграе,
Ля дзеўчынай хаты,
Ля дзеўчынай хаты
Ўздыхае.

І думае думу,
І думае думу
Хлапчына:
— Не можа пакінуць,
Не можа пакінуць
Дзяўчына.
Зайграе гармонік,
Баян галасісты,
Красуня палюбіць
Ізноў гарманіста.

## НЕ ПАКІНУ КРАІНУ

Я не пакіну,
Я не пакіну
Сваю мясціну,
Сваю мясціну,
Сваю хаціну,
Пад гнуткай грушаю,
Бялюткай квеценню
Зацярушанай.

Ой ты, зямля,
Мая зямля,
Як маці родная мая,
Я — твой сынок,
Я — твой сынок,
Нібы на полі каласок.

Я тут звякую,
Я тут звякую,
Нідзе такую,
Нідзе такую
Знайсці не можна
Мне азярыначку,
Чарняўку гожую —
Дзяўчыначку.

Я не пакіну,
Я не пакіну

Сваю краіну,
Сваю краіну,
Сваю бярозку
І алешыну,
Зямлю святую,
Зямельку грэшную.

Ой ты, зямля,
Мая зямля,
Як маці родная мая,
Я твой сынок,
Я твой сынок,
Нібы на полі каласок.

## ВОСЕНЬ

Восень, бабіна лета,
Наша песня не спета,
Восень, падаюць лісці,
Тут былі мы калісьці.

Пад цяністай вярбою
Мы сядзелі з табою,
Цёплы вечар страчалі,
Думкі-мары снавалі.

Зоры ў небе свяцілі,
Незабыўныя хвілі
Не памерклі з гадамі,
Засталіся між намі.

Восень, падаюць лісці,
Тут былі мы калісьці,
Восень, бабіна лета,
Наша песня не спета.

## РАЗЛУКІ

Калі б я адчуваў
Часіны доўгай мукі,
Тады б не прамяняў
Спатканні на разлукі.

Ад сэрца адарваў
Я сэрцайка другое,
Цяпер і сам спазнаў,
Што нарабіў благое.

Пакінуты, адзін,
Як птушка, што без крылаў,
Самотны нелюдзім,
Не бачу сваёй мілай.

Калі б я адчуваў
Часіны доўгай мукі,
Тады б не прамяняў
Спатканні на разлукі.

## ЦІ ТО ПРЫЙДЗЕ, ЦІ НЕ ПРЫЙДЗЕ?

Ці то прыйдзе,
Ці забудзе
І не з'явіцца ў свой час,
Штось, не знаю,
З намі будзе,
Штось, не знаю, выйдзе ў нас.

У прыгожай,
Добрай, гожай
Тонкі нораў, тонкі густ.
Як прагульваліся
Ў лесе,
Сесці з ёй хацеў пад куст...

А яна, яна
Ўскіпела:
— Пад кустом сядзіць мядзведзь,
З кулакамі
Наляцела,
Супакоіў ледзьве-ледзь.

Ці то прыйдзе,
Ці не прыйдзе
І не з'явіцца у час,
У нас што-небудзь
Ці выйдзе,
Будзе толк, не знаю, ў нас?

## НЕ ТРЭБА СПРАЧАЦЦА

Не трэба злавацца,
Не трэба злавацца,
І наша дарога не хоча канчацца,
Удалеч кіруе,
Удалеч кіруе,
Пакінеш — ад крыўды, сумоты згару я.

Не трэба падманы,
Не трэба падманы,
Пра іх здагадаюся позна ці рана,
Душу апаганяць,
Душу апаганяць,
Мяне невіноўнай і чыстай не зганяць.

Не трэба спрачацца,
Не трэба спрачацца,
Прыемна нам цёпла заўжды развітацца,
Прад дальняй дарогай,
Прад дальняй дарогай
Спакой хай і згода заменяць трывогу.

## НАВЕДАЎ МОЙ ДОМ

І нашто мне блакітныя вочы
І чарнюткія бровы дугой,
Калі мілы мой знацца не хоча,
Другі вечар не ходзіць са мной.

Што ты, мама, радзіла такую
Бедалагу-дачушку на свет,
Дай мне зелля ці раду якую
І адкрый мне любові сакрэт...

А інакш хутка я замарнею
І ў свае маладыя гады,
Як бабулька, з тугі пастарэю
І заўчасна і ўжо назаўжды.

Пасвятлелі блакітныя вочы,
Запалалі гарачым агнём —
Завітаў любы мой апаўночы,
Са сватамі наведаў мой дом.

## НЕ ГУБІ
## МАЁЙ КРАСЫ

Не губі маёй красы
І ў вячэрнія часы,
І ўначы, і сярод дня,
Бо краса мая адна...

Звяне — болей не знайсці,
Хоць увесь свет абысці,
Аніколі мне ў жыцці,
Нібы кветцы, не цвісці.

Не губі красы маёй,
Бы пралескі веснавой,
Без дзявочае красы
Змоўкнуць песень галасы.

## СКАЖАШ СЛОВА

Кветкі я палола,
Кветкі я палола —
Ножку пакалола,
Ножку пакалола.

І мне так балюча,
І мне так балюча,
Дык прыходзь, не мучы,
Дык прыходзь, не мучы.

Прыласкай хоць трошкі,
Прыласкай хоць трошкі —
Боль суціхне ножкі,
Боль суціхне ножкі.

Любіш — скажаш слова,
Любіш — скажаш слова —
Буду я здарова,
Буду я здарова.

## ТРАВАЧКА-МУРАВАЧКА

Травачка-муравачка
Пышна разрастаецца,
Знаю — ненаглядненькі
Ў сваты сабіраецца.

Травачка-муравачка
Сцежачкаю сцелецца,
Пачуццё падказвае
Міламу даверыцца.

Травачка-муравачка,
Траўка шаўкавістая,
Гэтак падабаюцца
Спевы гарманіставы.

Травачка-муравачка
Пышна кучаравіцца,
Мой харошы, родненькі
Ў сваты сабіраецца.

## ДЗЯВОЧЫ КАРАГОД

Што ты, хлопец, абмінаеш
Наш дзявочы карагод,
Не саромся, не хвалюйся,
Маеш васемнаццаць год.

Можа, знойдзецца дзяўчына,
Зачаруешся той час,
Вось прыгледзься: прыгажуняў
Ёсць нямала сярод нас.

А юнацтва, каб ты ведаў,
Усяго адно заўжды,
Пралятаюць непрыкметна
Нашы лепшыя гады.

Запрашаем, калі ласка,
У дзявочы карагод,
Ты ўжо хлопец не маленькі,
Маеш васемнаццаць год.

## ЗОРКА

Бялю́ткай хмаркай,
Бялюткай хмаркай
Любуюся я ў небе чыстым
І зоркай яркай,
І зоркай яркай,
Агністай, светла-залацістай.

Ой, цуд прыроды,
Ой, цуд прыроды,
І вечны ты і ўсемагутны,
З людскога роду,
З людскога роду
Ідуць твае усе пакуты.

Рукою бруднай,
Рукою бруднай
Азёры мы нішчым і рэкі.
І цяжка люду,
І цяжка люду,
І сорамна мне, Чалавеку.

Ты свеціш, зорка,
Ты свеціш, зорка,
І хмурышся на небе чыстым,
А мне так горка,
А мне так горка
За лёс зямлі сваёй вячыстай.

## ЛЮБОЎ МАЮ АДДАЙ

Я і рахманая,
Я і рахманая
І вельмі сціплая была,
Майго выбранніка,
Майго выбранніка
Мая сяброўка адняла.

Яго завабіла,
Яго завабіла,
К яму прыстала, як магніт,
Ён ёй даверыўся,
Ён ёй даверыўся,
А мной застаўся не забыт.

Мая саперніца,
Мая саперніца,
Ты мне любоў маю аддай,
Майго выбранніка,
Майго выбранніка,
Як я, любіць не будзеш, знай.

## НА ВЯСЕЛЛІ ЗАЛАТЫМ

Помніш, помніш,
Як стаялі,
Як стаялі
Пад сасной,
На палянцы,
На палянцы,
На зялёнай,
На лясной.

Помніш, помніш,
Гаварылі,
Гаварылі
Зноў і зноў —
Не пагасне,
Не пагасне
Наша
Моцная любоў.

Помніш, помніш,
Абяцалі
Мы друг друга
Паважаць,
І жыць дружна,
І жыць дружна,
Дзетак любых
Гадаваць.

Помніш, помніш,
Як стаялі
Пад сасною
Я і ты,
А цяпер з табой
Станцуем
На вяселлі
Залатым.

## КАЛІ ТАК ЦІ НЕ ТАК...

Мне на вёсцы
Казалі людзі,
Што мяне раніцой
Ты будзіш.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

Мне на вёсцы
Казалі людзі:
— Кавалер мой другі
Прыбудзе.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

Мне на вёсцы
Казалі людзі:
— К маладзіцы
Ты ноччу блудзіш.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

Мне на вёсцы
Казалі людзі:
— Не хадзі
К недавярку, прыблудзе.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

Мне на вёсцы
Казалі людзі,
Што з табой
Бяды не пазбудзеш.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

Мне на вёсцы
Казалі людзі,
Што маім ты
Суджаным будзеш.

Калі так ці не так —
Перапытваць не будзем.

## СЫРАЕЖАЧКА

Я ішоў і дарожкай
І сцежкай
І знайшоў у ляску
Сыраежку.
Ой, мая, мая
Сыраежачка,
Што дала мне
Лясная сцежачка.

Глянуў зблізку
Ды глянуў здалёку:
Як я жыў без цябе,
Сінявокай?
Ой, мая, мая
Сыраежачка,
Што дала мне
Лясная сцежачка.

Любаваўся паставай,
Паходкай,
Ненагляднай,
Прыгожай малодкай.
Ой, мая, мая
Сыраежачка,
Што дала мне
Лясная сцежачка.

Я ішоў з ёй
І сцежкай-дарожкай,
Са сваёй
Сыраежкай-харошкай.
Ой, мая, мая
Сыраежачка,
Што дала мне
Лясная сцежачка.

## ТРЫ ЗЯЦІ

Былі ў цешчы зяці,
Прыйшлі ў свята гасціць,
Стала іх частаваць
І пра дочак пытаць...

Першы праўду сказаў —
Жонку любай назваў,
А другі — дарагой,
Трэці — злою, благой.

Цешча чарку мядку
Ды яшчэ першачку
Першаму і дала
І другому дала,
Ды ў прыдачу пірог.
Трэцяга з-за стала
Выгнала за парог.

Два да цешчы зяці
Ў святы ходзяць гасціць.
Ну, а трэці зяцёк
З вёскі хуценька ўцёк.

## ПАМІРАЦЬ НЕ ХАЧУ

Я жыву, і нямала, на свеце,
Мне вясновае сонейка свеціць.
Як мне люба шырокае поле,
Дзе шапочуць пад ветрам таполі.
Паміраць не хачу вясною,
Злая смерць, не прыходзь за мною,
Паміраць не хачу вясною.

Я жыву, і нямала, на свеце,
Лета цёплае шчыра прывеціць,
І пакліча знаёмы лужочак,
Накашу я травіцы вазочак.
Паміраць не хачу я ўлетку,
Бо заплачуць жонка і дзеткі,
Паміраць не хачу я ўлетку,

Я жыву, і нямала, на свеце,
Восень верас ружовы расквеціць,
І адзенуцца ў чырвань рабіны,
Сакаўныя даспеюць ажыны.
Паміраць не хачу ўвосень,
Засумуе лес, загалосіць,
Паміраць не хачу я ўвосень.

Я жыву, і нямала, на свеце,
І зіма мне так люба, паверце:

Белым пухам сцяжынкі засцелюць
І шляхі і дарогі аселіц.
    Паміраць не хачу, не буду,
    Я адолею смерць-прыблуду,
    Паміраць не хачу, не буду!

## АПОШНІ РАЗ

Звіняць, не ціхнуць капяжы,
Што хмурны дзень, мне не кажы,
І так сумотны мой настрой,
І я апошні раз з табой.

Саперніца — любоў твая,
І стала ўжо залішняй я,—
Змагла я з крыўдаю пазнаць,
Што сілай мілай не бываць.

Звіняць, не ціхнуць капяжы,
Што хмурны дзень, мне не кажы,
Чаго маўчыш, няверны мой,
І я апошні раз з табой.

## ДВА СЛОВЫ

Толькі словы сказала, два словы —
Пад напевы вясновай дубровы.
У таемным кутку
Ты дала мне руку
Прывітальную,
Нерасстанную.

І запелі ўсе птушкі на свеце,
Пацяплеў золкі, сіберны вецер.

Явар з ліпаю веццем шаптаўся
І ніжэй да сяброўкі схіляўся.

І два словы, два вечныя словы —
Я кахаю — пачулі дубровы.
У таемным кутку
Ты дала мне руку
Прывітальную,
Нерасстанную.

## ДЗЕ ЗНАЙСЦІ ТАКІЯ ЛЕКІ?

Дзе знайсці такія лекі,
Дзе знайсці такую зёлку,
Каб прывабілі навекі
Да мяне майго Міколку.

Дзе знайсці такія травы,
Цудадзейныя прынады,
Каб мой хлопец быў ласкавы
І заўсёды быў мне рады.

Дзе знайсці такі ласунак
І салодкі і прыгожы? —
Паспрабую пацалунак,
Можа, ёй і дапаможа.

Дзе знайсці такія лекі,
Дзе знайсці такую зёлку,
Каб прывабілі навекі
Да мяне майго Міколку.

## СІНЕНЬКІЯ ВОЧКІ

Дзівavaўся,
Дзіваваўся
Харавтвом зямлі,
Любаваўся,
Любаваўся,
Як палі цвілі.
А ільны-ляночкі —
Сіненькія вочкі.
Запрыкмеціў,
Запрыкмеціў —
Косы на плячах —
Тую стрэціў,
Тую стрэціў,
Што сніў па начах.
Ружавеюць шчочкі,
Сіненькія вочкі.
Мілавацца,
Мілавацца
Хораша дваім,
Не расстацца,
Не расстацца
З хараством такім.
Ружавеюць шчочкі,
Сіненькія вочкі.

## ЯК СОНЦА РАНІЦОЙ

Чым болей я з табой,
Тым болей падабаешся,
Як сонца раніцой,
Так цёпла ты ўсміхаешся.

Тваё цяпло ідзе
З глыбінь душы і свеціцца,
І я запомню дзень,
Як выпала нам стрэціцца.

Каліна расцвіла,
Раскінула галіначкі,
Ты да мяне прыйшла
Танклявай чараціначкай.

Чым болей ты са мной,
Тым болей падабаешся,
Як сонца раніцой,
Засвеціш, заўсміхаешся.

# ПАЗАВІ МЯНЕ

Пазаві мяне,
Пазаві мяне —
Адзавуся,
Назаві сваёй,
Назаві сваёй —
Не здзіўлюся.

Прыгалуб хутчэй,
Прыгалуб хутчэй,
Галубочак,
Я запомню час,
Я запомню час
І дзянёчак.

Ты пакліч мяне,
Ты пакліч мяне —
Адклікнуся,
Вернай я табе,
Вернай я табе
Застануся.

## ТОЛЬКІ ТЫ

Яшчэ ад песні
Не астыў,
У сэрцы музыка
І словы,
Была са мною
Побач ты
Парой вячэрняй
Ля дубровы.

Яшчэ ад песні
Не астыў,
Здаецца, што яна
Звінела,
І на мяне
Чароўна ты,
Як зорка ясная,
Глядзела.

Яшчэ ад песні
Не астыў,
Нібы трымаў
Яе ў абдымках,
І толькі ты,
І толькі ты
Ў маіх жыць будзеш
Успамінках.

5. Зак. 391.

## ПАКУЛЬ МАЛАДЫ

Плыве, праплывае,
Плыве, праплывае
Над рэчкай туман,
І весела грае,
І весела грае,
Спявае баян.

І песні, як мары,
І песні, як мары,
Ў прасторы ляцяць,
І новыя пары,
І новыя пары
Ідуць танцаваць.

Праходзяць маланкай,
Праходзяць маланкай
Імкліва гады,
Гуляй да світанку,
Гуляй да світанку,
Пакуль маладыя.

## ЛЕПЕЙ ЦАЛАВАЦЦА

У адной дзяўчыны
Я купляў вяргіні...
— Не прадам вяргіні
Я табе, хлапчына
— Гэта што за штукі?! —
Працягнуў я рукі. —
Ты чаго рагочаш,
Колькі грошай хочаш?
— Не зважай на жарты,
І злаваць не варта,
Дарам малайчыне
Аддаю вяргіні.
— Грошы не шкадую,
Дам цану любую...
Кінем цанавацца,
Лепей цалавацца!

## ВОЗЕРА

Возера, возера —
Лотаць белая,
Я маўклівая,
Анямелая.

Возера, возера
Светлавокае,
Ад міленькага,
Ой, далёка я.

Возера, возера,
Хвалі коцяцца,
Мне пабачыцца
З любым хочацца.

Возера, возера,
Туман сцелецца,
Прыйдзе шчасцейка —
Гэтак верыцца.

## СПАЦЬ ВЕЧАР ЛАЖЫЦЦА

Спаць вечар лажыцца,
Спаць вечар лажыцца
Пад спеў салаўіны вясной,
А мне не сядзіцца,
А мне не сядзіцца
Часінай такою адной.

І вуліца кліча,
І вуліца кліча,
Гармонік пяе ў цішыні,
І зорачкі-знічкі,
І зорачкі-знічкі
Ў нябеснай гараць вышыні.

І месяц зіркаты,
І месяц зіркаты
Ў акно пажадаў заглянуць,
Я выйду за хаты,
Я выйду за хаты,
Дзе граюць і песні пяюць.

## ДОЖДЖ ІДЗЕ

Дождж ідзе,
Дождж ідзе,
Пахне бэз, пахне траўка,
На рацэ
Ходзяць хвалі-кругі,
Ты са мной,
Ты са мной,
Мая радасць-чарняўка, —
І пахмурны мне
Дзень дарагі.

Дождж ідзе,
Дождж ідзе,
Ажывае ўся квецень,
І над намі
Блішчыць парасон,
Мы спяшаемся з табой.
А куды? —
Не прыкмецім,
Ці ў дзівосную казку,
Ці ў сон?

Дождж ідзе,
Дождж ідзе
І раптоўна сціхае,
Пахне мятай,
Травой-муравой,

Той шчаслівы,
Хто моцна
І шчыра кахае,
Гэтаксама
Як мы, любы мой.

# ВЕРНАСЦЬ

— Мы пазнаёмімся,
Мы пазнаёмімся,
Я запрашаю на вальс,
Трохі асвоімся,
Трохі асвоімся,
Як жа я зваць буду вас?
— Зваць мяне вернасцю,
Зваць мяне вернасцю,
Вернага бачыць хачу,
Калі не верыце,
Калі не верыце,
Сціхну я і памаўчу.
— Не сумнявайцеся.
Не сумневайцеся
Ў вернасці шчырай маёй,
І не хвалюйцеся,
І не хвалюцейся,
Станем мы, станем раднёй.

## ХЛОПЕЦ МОЙ

Хлопец, хлопец мой прыемны,
Вельмі ты якісь някемны,
І ўсё ходзіш, нібы цень,
Ты за мною цэлы дзень.

Хлопец, хлопец мой маўклівы,
Ты ўжо вельмі сарамлівы,
І ўсё ходзіш, нібы цень,
Ты за мною цэлы дзень.

Хлопец, хлопец мой нябога,
Не было ў мяне такога,
І ўсё ходзіш, нібы цень,
Ты за мною цэлы дзень.

Хлопец, хлопец, мне прызнайся
І скажы, калі ўкахаўся,
Не хадзі, нібыта цень,
Ты за мною цэлы дзень.

## СТАРЫ ХАЛАСЦЯК

Грымнуў гром, злосны гром
З бліскавіцай,
Не паспеў я ў свой час
Ажаніцца.

І дзяўчаты з мяне
Ўжо смяюцца,
Падыду да кабет —
Адбягуцца.

Перастаркам завуць,
Нецікавым,
Я на гульні не йду,
На забавы.

Грымнуў гром, злосны гром
Па-над хатай,
Я стары халасцяк,
Зухаваты...

## НАВОШТА?

Навошта адлегласць, навошта?
Навошта разлука са мной?..
І пісьмы, чаканая пошта
Асенняю хмурай смугой.

Цябе мне, як сонейка, трэба,
Як траўцы бязвоблачны дзень,
Як дрэўцу вясновае неба
І дожджыку цёплы струмень.

Навошта адлегласць між намі?
Навошта яна, далячынь?
Навекі мы сыдземся самі,
Каб лёсу свайму памагчы.

## ГАЛІНА, ГАЛІНКА

Схіляецца долу
Таполі галінка,
Няма супакою,
Гаруе Галінка.

Разлука няўмольна,
Навалай прыходзіць —
І сэрцайка месца
Ў грудзях не знаходзіць...

Нястрымана б'ецца
І выскачыць хоча,
Глядзяць і не бачаць
Пабляклыя вочы.

Шапочацца з ветрам
Таполі галінка,
Чакай, шчасце прыйдзе,
Галіна, Галінка.

## ПАХОДКАЙ ЛЁГКАЮ

Паходкай лёгкаю,
Паходкай лёгкаю
Ка мне насустрач прыплыла,
І ты лябёдкаю,
І ты лябёдкаю,
Залётнай птушкаю была.

Я косы-пёрачкі,
Я косы-пёрачкі
Кранаў ціхутка і маўчаў,
І на вячорачках,
І на вячорачках
Адну цябе і прыкмячаў.

Ты погляд зоранькі,
Ты погляд зоранькі
З вышынь нябесных узяла,
Паходкай лёгенькай,
Паходкай лёгенькай,
Ка мне лябёдкай прыплыла.

## СОХНУЦЬ ВЕРАСЫ

Сохнуць верасы,
Я тваёй красы
Кропелькі прашу,
Збоч дарог лясных
На руках сваіх
Я цябе нашу...
Мы даўно, даўно
П'ём любві віно
З невідушчых чар,
І яго струмень
Б'ецца кожны дзень
З нашых светлых мар.

Лецейка прайшло,
З ветрам паплыло,
Не вярнуць назад,
Сохнуць верасы,
А тваёй красы
Не завяне сад.

## ПРАБАЧ, ДАРАГАЯ

Прабач, дарагая,
Прабач, дарагая,
Што ў нас адбылося:
Настала вясною
Настала вясною
Хмурлівая восень...

Схіліла бяроза,
Схіліла бяроза
Танклявыя косы,
З табой не пачуем,
З табой не пачуем
Пяюх шматгалосых.

Адзін салавейка,
Адзін салавейка
Спяе апаўночы,
Са мной сустракацца,
Са мной сустракацца
Ты болей не хочаш.

Прабач, дарагая,
Прабач, дарагая,
Што ў нас адбылося:
Настала вясною,
Настала вясною
Хмурлівая восень.

## РАБІНА,
## РАБІНАЧКА

Рабіна, рабіначка,
Пад ветрам схіляешся,
Дзяўчына, дзяўчыначка,
Ты моўчкі туляешся.

Чаго зажурылася,
Ідзеш адзіночкаю,
Яшчэ не забылася,
Гуляла як ночкаю.

Заглядваўся месячык
На белыя ручанькі,
Каханенькі Ясечык
Быў твой неразлучненькі.

Рабіна, рабіначка,
Стан тонкі, пахіленькі,
Дзяўчына, дзяўчыначка,
Прыедзе твой міленькі.

## СЛЯЗІНКІ

За туманамі,
За туманамі
Не відаць сцяжынкі,
Пакаціліся,
Пакаціліся
З воч маіх слязінкі.

Сцежка вузкая,
Сцежка вузкая
Адзінока ўецца,
Неспакойнае,
Неспакойнае
Б'ецца, тужыць сэрца.

Абарвалася,
Абарвалася,
Што было між намі,
Знікла ўдалечы,
Знікла ўдалечы
З юнымі гадамі.

За туманамі,
За туманамі
Не відаць сцяжынкі,
З воч не коцяцца,
З воч не коцяцца,
Высахлі слязінкі...

## ПОМНЮ...

Помню Вераніку,
Помню,
Як у сад паклікаў,
Помню.

Верным быць
Пакляўся Вераніцы
Пад вячэрняй зоркай-мілавіцай,
Помню.

Вочы, як валошкі,
Помню,
Сцежкі і дарожкі
Помню.

Ранішнія росы
Помню,
Шоўкавыя косы
Помню.

Верным быць
Пакляўся Вераніцы
Пад вячэрняй зоркай-мілавіцай,
Помню...

## ПАВЕЯЛА СВЯТЛОМ...

Павеяла святлом,
Павеяла святлом,
І стаў туман радзей,
І месяц вечарком,
І месяц вечарком
На нас дваіх глядзеў.

Ён шлях нам асвятляў,
Ён шлях нам асвятляў,
Зайздросціў маладым,
І ветрык калыхаў,
І ветрык калыхаў
У квецені сады.

А мы ішлі, ішлі,
А мы ішлі, ішлі
Над рэчкай гаманкой,
На ўсёй, на ўсёй зямлі,
На ўсёй, на ўсёй зямлі
Лагода і спакой.

І так бы нам ісці,
І так бы нам ісці,
Руку ў руцэ трымаць,
І толькі б у жыцці,
І толькі б у жыцці
Нам гора не пазнаць.

## НАЎЗДАГОН МАЛАДОСЦІ

Як пайду я, пайду
Наўздагон маладосці,
Панясу ў белы свет
Людзям больш весялосці.

Як пайду я, пайду
Наўздагон маладосці
Ў мілы кут, у свой край,
Дзе не ведаюць злосці.

Як пайду я, пайду
Наўздагон маладосці
Паўнапраўным яе
Жыхаром, а не госцем.

Як пайду я, пайду
Наўздагон маладосці,
Панясу ў белы свет
Людзям больш весялосці.

## ВЯРНІСЯ

Даруй мне, плачу я,
Даруй мне, плачу я
Аб тым, між намі што было:
Сваё гарачае,
Сваё гарачае
Я не аддаў табе цяпло,

Сляза німодная,
Сляза ніводная
Па твары гордым не сплыла,
Ты ў ноч халодную,
Ты ў ноч халодную
Павольна ад мяне пайшла.

І я знявераны,
І я знявераны
Стаяў на ганку і глядзеў —
Пад хмарай шэраю,
Пад хмарай шэраю
Не бачна зоркі анідзе.

Вярніся, плачу я,
Вярніся, плачу я,
Свяці мне, зорачка, свяці,
Сваё гарачае,
Сваё гарачае
Цяпло аддам табе ў жыцці.

## СПАТКАННЕ

Цішыні хачу,
Сяду, памаўчу
На ўзлессі,
Рэчкі беражок,
Траўка і лужок,
Сад весні.

Вішня расцвіла,
Пах свой разліла
Наўкола,
Гарманіст зайграў,
І матыў гучаў
Вясёлы.

Сяду памаўчу,
Слухаць я хачу
Іграние,
На зыходзе дзень,
Да мяне ідзе —
Спатканне.

## СПЛЫВАЕ ТУМАН

Сплывае туман,
Сплывае туман
Пад раніцу сіняй смугою,
Не хочацца мне,
Не хочацца мне
Ніколі спазнацца з бядою.

Бывалі ў жыцці,
Бывалі ў жыцці
Няўдачы, нястачы і мукі,
Самотней за ўсё,
Самотней за ўсё
Між намі надоўга разлукі.

Сплывае туман,
Сплывае туман
Пад раніцу сіняй смугою,
Як хораша мне,
Як хораша мне
Заўсёды з табой, маладою.

## У ЯРКУ

У ярку, у ярку,
У ярочку
Я праводзіла
Летнюю ночку,
Праляцела яна —
Не прыкмеціла,
Мне было
Таямніча і весела.

У ярку, у ярку,
У ярочку
Вымывалася я
Ў ручаёчку,
Вымывалася,
Выціралася,
У ваду, бы ў крышталь,
Углядалася.

У ярку, у ярку,
У ярочку
Не адна я
Праводзіла ночку:
Быў са мною,
Са мною салавачка —
Прыгажун
З кучаравай галовачкай.

## СВЕТЛЫ СОН

Сцежка загубілася
Ў снегавой імгле,
Ночкаю ты снілася,
Мроілася мне...

Я ішоў завеяю,
Белай, ледзяной,
І — дзівоснай феяю
Ты перада мной...

Так мы і сустрэліся,
Погляд твой лавіў —
Вочы загарэліся
Полымем любві.

Я прачнуўся — свеціцца
Сонейка з акон,
Можа, ён і здзейсніцца,
Гэты светлы сон.

## НАДЗЕЯ, НАДЗЕЙКА

Чаромхавы цвет,
Чаромхавы цвет,
Вясна-веснавейка,
Табою сагрэт,
Табою сагрэт,
Надзея, Надзейка.

Як я зазірнуў,
Як я зазірнуў
У вочы-глыбіні —
І ўжо ў іх тануў,
І ўжо ў іх тануў
Той самай часінай.

А ты зберагла,
А ты зберагла
Імгненна тапельца
І мне аддала,
І мне аддала
Слухмянае сэрца.

Чаромхавы цвет,
Чаромхавы цвет,
Вясна-веснавейка,
Табою сагрэт,
Табою сагрэт,
Надзея, Надзейка.

## ВАЧАНЯТЫ

Чарнюткія, чарнюткія,
Як вугалькі,
Агнём гарачым свецяцца
І трапяткім.
    Вочы, вочы, вачаняты,
    Я прыйду да вашай хаты...

Маўклівыя, маўклівыя,
Згоды няма,
Чакаю, зачакаўся я,
Можа, дарма.
    Вочы, вочы, вачаняты,
    Я прыйду да вашай хаты...

Адмовілі, адмовілі —
Кажа пагляд,
Няўдачай немінучаю
Сам я не рад.
    Вочы, вочы, вачаняты
    Просяць, каб прыйшоў да хаты...

## ПРЫЛЯЧУ

Ты мне толькі свой голас падай,
Прылячу неадкладна ў твой край,
Прылячу, прылячу, прылячу,
Я цябе так пабачыць хачу.

Крылы мне ў арла не займаць,
Акрыліла мяне ты сама,
Прылячу, прылячу, прылячу,
Я цябе так пабачыць хачу.

Я развею свой сум і твой сум,
Спадзяванні твае прынясу,
Прылячу, прылячу, прылячу,
Я цябе так пабачыць хачу.

Не марудзь, ты мне голас падай,
Прылячу неадкладна ў твой край,
Прылячу, прылячу, прылячу,
Я цябе так пабачыць хачу.

## ПАМЯЦЬ

Завіхурыла, замяла
Пуцявіны-дарогі замець,
Засталася, якой была,
Не згубілася з часам памяць...

Мы прыйшлі ад сівых часоў,
І наш род ніхто не спаганіць,
Смелых думкамі галасоў
Не згубілася з часам памяць.

Самабытны свой родны кут,
Люд здабыткі гісторыі славіць,
Чуем песню матчыну тут,
Не згубілася з часам памяць.

## РАЗВІТАЛЬНЫ ВЕЧАР

Апошні вечар развітальны,
І наш з табою вечар,
Любімы вальс зары світальнай,
Як верны друг сардэчны.
    У рытме вальса кружымся
    І ты і я,
    А разам з намі кружыцца
    І ўся зямля.

І погляд з поглядам гавораць
На мове зразумелай,
А хто ўздыхне, хто слёзы ўроніць
У роздуме знямелым.

Іграй, музыка, развітанне,
Ў апошні гэты вечар,
Хай будзе хуткае вяртанне
І цёплая сустрэча.
    У рытме вальса кружымся
    І ты і я,
    А разам з намі кружыцца
    І ўся зямля.

## АХМЯЛЕЛЫ Я СТАЎ

Ахмялелы я стаў
Ад твайго пацалунку
І не знаю, пайсці
Мне ў якім накірунку.

Пайсці ў госці к табе —
Маці выганіць, можа,
Заляцанне маё,
Відаць, мала паможа.

Правяду я цябе
Аж да самае хаты,
Што ўсю ноч чараваў,
Не лічы вінаватым.

Ахмялелы я стаў,
Можна збіцца з кірунку,
Але не ад віна,
Ад твайго пацалунку.

## МНЕ ДОРЫШ НАТХНЕННЕ...

Мне дорыш натхненне,
Мой праведны Божа,
Ад суму збавенне
Прыносіш прыгожасць...

Яе непрыкметна
Разносяць анёлы,
Пад месяцам светлым
Дзівосна наўкола...

Вяршыні сасонак,
Як свечкі, палаюць,
Вятрыскі спрасонак
Над імі гуляюць.

А сонца праменнем
Засвеціць прыгожа,
Мне дорыш натхненне,
Мой праведны Божа.

## АЗЯРЫНКА

Азярынка,
Сітняком зарослая,
А дзяўчынка
Гадавана вёснамі.

Азярынка
З белымі лілеямі,
А дзяўчынка
З марамі, надзеямі.

Азярынка
Дзіўная світаначкам,
А дзяўчынка
Любая каханачку.

Азярынка
Плешчацца гуллівая,
А дзяўчынка —
Птушка гаманлівая.

## НАДЫДУЦЬ ЧАСІНЫ...

Надыдуць часіны такія:
Ляцяць жаўрукі трапяткія,
Здаецца, за неба вышэй,
Ад іх не адвесці вачэй.

Надыдуць часіны такія:
Лугі і гаі гаманкія,
Спявае усё весялей
І ноччу і днём салавей.

Надыдуць часіны такія:
Заранкі мігцяць агнявыя
І вабяць, чаруюць мяне,
Нібыта ў загадкавым сне.

# КАМАРЫ

Камарочкі,
Надаеды-камары,
Не насіцеся за мною
Да зары!..

Ой, нахабы,
Ой, настырныя суздром,
Намазолілі мне вочы,
Хай вас гром...

Не хачу я
З вамі знацца, ані з кім,
У мяне каханак мілы,
Цуд які!..

Я прашу вас, хлопцы,
З гэтае пары
Не насіцеся за мной,
Бы камары.

## ЗЯЛЁНЫ КЛЁН

Зялёны клён, зялёны клён
Ля хаты,
З табой нас ён, з табой нас ён
Сасватаў.

Хаваў вясной, хаваў вясной
З ахвотай
Цябе са мной, цябе са мной
Лістотай.

І дум і мар, і дум і мар
Быў сведкай
І нашых чар, і нашых чар
Улетку.

Стаіць наш клён, стаіць наш клён
Ля хаты,
Зрадніў нас ён, зрадніў нас ён,
Сасватаў.

## Я ПРАХОДЗІЎ ПА ЛЕСЕ...

Я праходзіў па лесе —
Птушкі з крыкам ляцелі:
— Людзі, гнёзды не рушце,
Мы яшчэ не здзічэлі.

Я праходзіў па лесе —
Бачыў пні замест дрэваў
І пасохлыя сосны
Ад кіслотных залеваў.

Я праходзіў па лесе —
Уцякала ваверка,
І схаваўся барсук
У нару пад узгоркам.

Я праходзіў па лесе —
Рэчкі ледзьве журчэлі:
— Не губіце нас, людзі,
Каб зусім не здзічэлі.

## МОЙ МІЛЕНЬКІ ПЕРАПІЎ

### З народнага

Мой міленькі перапіў,
Чарку лішнюю хапіў,
Вось дык гора, вось дык ліха,
Чарку лішнюю хапіў.

Усю ночку якатаў,
Спаці хвілі не даваў,
Вось дык гора, вось няшчасце,
Спаці хвілі не даваў.

Раніцою сеў за стол,
Я паставіла расол,
Збан расолу літраў пяць
Асушыў, не можа ўстаць.

— Ой, жывот, ой, не ўтрываць...
Трэба ж доктара пазваць,
Вось дык гора, што ты зробіш?
Трэба ж доктара пазваць.

Покуль доктар падаспеў —
Небарака акалеў,
Вось дык гора, вось няўдача —
Небарака акалеў.

Везлі любага хаваць —
Стала слёзы праліваць,
А завезлі за сяло,
І мне стала весяло!

## ШТО ЗА ХЛОПЕЦ?

Што за месяц яснавокі? —
Свеціць і не свеціць,
Што за хлопец, што за хлопец? —
Стрэціць і не стрэціць.

Прытулілася да клёна,
Стала пры дарозе,
Даражэнькага чакала,
Сэрцайка ў трывозе.

А наўкола ціха, ціха
І не чутна крокаў,
Толькі весела спявала
Дудка недалёка.

Дзе ты, месяц яснавокі,
А ці з хмары выйдзеш?
Што за хлопец, што за хлопец —
Прыйдзеш ці не прыйдзеш?

## ПРАШУ, ПАКІНЬ

Прашу, пакінь,
Мяне пакінь,
Папрокаў не пачуеш,
Кпін,
Нашто табе
Мяне вініць,
Мне цяжка так
Цябе забыць.

Прашу, пакінь,
Мяне пакінь,
Ты будзеш,
Як і быў, такім,
Нашто наносіць
Боль яшчэ? —
Страшэнны боль
Агнём пячэ.

Прашу, пакінь,
Мяне пакінь,
Застаўся ў нас
Жывы ўспамін —
Наш родны сынку
Ёсць у нас —
Жыцця не згасне
Светлы час.

## ГАВОРАЧКА

Няма таго клёна,
Няма таго клёна,
Пагорачка,
Дзе наша гучала,
Дзе наша гучала
Гаворачка.

Зялёныя елкі,
Зялёныя елкі
Шапочуцца,
Вярнуцца ў былое,
Вярнуцца ў былое
Мне хочацца.

Пайшла б я да клёна,
Пайшла б я да клёна,
Пагорачка,
Дзе з мілым гучала,
Дзе з мілым гучала
Гаворачка.

## ВІНОЎНІЦА — ТЫ

Я гарэў, і згарэў,
І астыў,
І віноўніцаю
Толькі ты.

Ты халоднай
І чэрствай была,
Мне іскрынкі цяпла
Не дала.

І пад цішу
Вячэрнюю зор
Мой патухнуў
У сэрцы касцёр.

Позна, позна
Надзею ўскладаць:
Хто згарэў,
Той не можа палаць.

*Я разам з ветрам-веснавеем*
*Радкі, нібыта жыта, сею*

* * *

Розум не заменіш
Ніколі хітрасцю,
Яго не купіць,
Не знайсці, не вынайсці.

* * *

Бываюць і ў зор
Зацямненні,
Іх тухнуць на момант
Прамені.

* * *

Віно не вінавата,
Што сам ты дурнаваты,
Іншы і цвярозы
Мае п'яны розум.

* * *

Разумных ёсць многа ў нас
І знакамітых,
Ды мала
Раджаецца таленавітых.

* * *

Зайшлі ў сутарэнне,
А дзе ж тое выйсце?..
За што ж паміралі
Мільёны калісьці?!

* * *

Навошта дурняў так багата,
О, Божа мілы?
Іх дэман люты нараджае
І злая сіла.

* * *

Мы столькі званняў выдумляем,
Зусім надуманых пахвал,
Спытаць сябе мы забываем:
Ці ёсць на свеце ідэал?

* * *

Што зароблена
Сумленна,
Спажывеш ты
Несумненна.

* * *

Пападзіся ліхому
На зубы —
Давядзе цябе,
Браце, да згубы.

* * *

Наляціць
Каса на камень —
Толькі
Развядзеш рукамі.

* * *

Хоць вясны не робіць
Ластаўка адна,
Ды цяпло прыносіць
Заўсягды яна.

* * *

Калі б хто ведаў
Свой дакладны час скanання,
Не мог бы хвілі ён пражыць
Без хвалявання.

* * *

Сапсуецца настрой
І ў светлай кватэры:
І няўтульна тады,
І хмура, і шэра.

* * *

Рабы не хочуць
Быць рабамі,
А мараць
Стаць гаспадарамі.

* * *

У чысцейшы
Навукі храм
Пішчом залазіць
Невук-хам.

* * *

Бюракрату
Не бывае цесна —
Перасаджваецца
З крэсла ў крэсла.

* * *

Вучыся, браце, бо навука,
Хаця яна, сапраўды, мука,
Табе прыносіць асалоду,
Карысць любімаму народу.

* * *

Не вялікі ён музы́ка,
Што іграе для прыліку,
Музыкант жа — чарадзей,
Думы выкажа людзей.

* * *

Самая
Цяжкая дарога —
Да вялікага
Ад малога.

* * *

Калі бяздарныя славяцца,
Дастойных, паважаных ганяць —
І гэта не забываецца,
Трымае людская памяць.

* * *

Што фальшывая манета —
Распазнаць не проста гэта,
Як прытвору-дабрадзея,
А на справе — ліхадзея.

* * *

А людзей, і трохі грэшных,
Незлічоныя імёны,
З некаторых, ну, аж смешна —
Маляваліся іконы.

* * *

Многа песень у артыстаў
Шэранькіх наўздзіў,
А спявае галасіста
Салавей адзін.

* * *

Калі пагнаўся за кар'ерай,
Што ты пісьменнік — не паверу,
Пісьменнік жа сумленнем чысты,
Не можа быць кар'ерыстам.

* * *

Праведнікам права,
Праведнікам чэсці,
Праведнікам славы
Суджана ўваскрэсці.

* * *

Учынак добры
Не зганяць —
Пакінуць людзі
На памяць.

* * *

Не галоўнае —
Прыгажосць,
І спагада,
І ласка ёсць.

* * *

Без маленькай
Кропелькі вады
Акіян
Загіне праз гады,

* * *

Нельга выпіць мора,
Праўду задушыць,
Праўда-непакора
Вечна будзе жыць!

* * *

Усюды многа
Людзей,
Знайсці асобу
Цяжэй.

* * *

Закону
Бяссілле
Раджае
Насілле.

* * *

Пануе
Прыгожасць —
Знікае
Варожасць.

* * *

Прыгоства —
Чаруе,
Ласкавасць —
Мілуе.

* * *

Не было б
У свеце без кахання
Ні святла,
Ні сонечнага ззяння.

* * *

Усмешка
Гоніць злосць,
Даруе
Весялосць.

* * *

Нядоля. Хто з ёю
Хоча знацца? —
Сама з табою
Ідзе страчацца.

* * *

Хто ўсё сваёю меркай
Мерыць,
Нікому больш
Ужо не верыць.

* * *

Кароткі век
Жыццём адмераны.
На жаль, мы ім падчас
Зняверанy.

* * *

Будавалі завод
І дарогу-шашу,
Забывалі сябе,
Чалавека, душу.

* * *

Не бяда,
Што іншамовіца,
Хто жадае,
Той дамовіцца.

* * *

Жонка
З мужам памяркоўным
Цвіце
Кветкаю чароўнай.

* * *

Жыццё не ўмесціцца
Ў закон,
Хоць будзе
Самы поўны ён.

* * *

Усіх законаў,
Несумненна,
Даражэй
Закон сумлення.

* * *

Міласэрнасць —
Міласць сэрца,
Ачарсцвеласць —
Чуласць рвецца.

* * *

У сямі нянек —
Дзіця без носу,
Дзіця без нянькі —
Гаротнік лёсу.

* * *

Рыбак заўважыць
Рыбака —
Маньяк такога ж
Маньяка.

* * *

Спярша
Пакасі,
Пасля
Паясі.

* * *

Ужо лепей быць
Белай варонай,
Чым дарма, без падстаў
Пахвалёным.

* * *

Даволі многа
Кандыдатаў —
Вучоных жа
Не так багата.

* * *

Не ўбачыш,
Не стрэціш
Нідзе дабрыні —
Здаюцца
Пахмурнымі
Светлыя дні.

* * *

У сапраўднай асобы
Ёсць і свой
Пагляд —
Асобы.

* * *

Абодва
Хітрых мудрагелі
Вялі змаганне
За партфелі,
І самы
Хітры мудрагель
Узяў
Начальніцкі партфель.

* * *

Сухім выходзіць
Ён з вады,
Калі нат топіцца
Тады.

* * *

Сяброў багата —
Гаць гаці,
Няшчасце прыйдзе —
Не знайсці.

* * *

Цяжка вылезці
З бяды,
Нібы рыбе той
З вады.

* * *

Забываецца
Дарагое,
Помніцца
Крыўднае, благое.

* * *

Сказаў прамоўца —
Красамоўца —
Не запомніцца
Ані слоўца.

* * *

Мове маёй
Не збяднець аніколі:
Колькі ні чэрпай —
Багацця ўсё болей.

* * *

Абавязак —
Служба,
Па душы,
Дык дружба.

* * *

У яго
Шмат нораву —
Не гарыць
Ад сораму.

* * *

Вялікае
Цярпенне —
Ад ліхасці
Збавенне.

* * *

Гараваць
Няма калі —
Ладкаваць лепш
Кут зямлі.

* * *

Страшыдла і зух —
Сярод кволых мух,
Сярод забіяк —
Ціхоня, слізняк.

* * *

За адну якую
Шчэпку
Знойдзе звадлівы
Прычэпку.

* * *

Любяць браць
Пазыку,
Не спяшаць
З разлікам.

* * *

На сваёй
На печы
Лепш за ўсё
Грэць плечы.

* * *

За кошт чужы,
Нашармака —
Жыццё такое
Лайдака.

* * *

Ад дурной славы,
Як ад пагоні,
Не ўцячэш
І на хуткасных конях.

* * *

На тое гнус,
Каб кроў ён піў,
На тое хлус,
Каб ён хлусіў.

* * *

Нахаба
І трапло-пляткар
На чэснага
Скіруе ўдар.

* * *

Разумны
Пірагі пячэ,
Дурны —
Ваду ў ступе таўчэ.

* * *

Лятун
Варонаю лятае,
Ні працы,
Ні дабра не мае.

* * *

Прадаў бы бацьку
І матку
За адну чарку
І ладку.

* * *

З'ясі
Хлеба крошку —
Лягчэй
Несці ношку.

* * *

Друг карыслівы,
Зайздросны
Горш, бадай,
Чым вораг злосны.

* * *

Ад нахабніка
І хціўца
Недалёка
Да злачынца.

* * *

Дзяўчат,
Жанок —
Чаруе ўсіх,
Бо вечны
Халасцяк-жаніх.

* * *

Той, хто кахае,
Не крычыць пра гэта,
Каханка —
Спадарожніца сакрэту.

* * *

Ад сваёй
Жыццёвай долі
Не ўцячэш
Ні ў лес, ні ў поле.

* * *

Скупы абкрадае
Сябе,
Як ад дзяцей сваіх
Грабе.

* * *

Такі ўжо ўдаўся
Нехарошы,
Не варты
Ломанага гроша.

* * *

Усляпую,
Без разліку,
Лёгка збіцца
З панталыку.

* * *

Накорміш сябра
Самохаць —
Не станеш
Дарэмна охаць.

* * *

Не раіўся ні з кім —
Сам думаў,
Празвалі людзі
Самадумам.

* * *

Не з радасці,
А з гора —
Чакаць пагоды
З мора.

* * *

Не могуць зладзіць
Утрох —
Хто цягне ў боб,
Хто ў гарох.

* * *

Умее
Навесці цень
На ясны,
Сонечны дзень.

* * *

Навешае
Сто чарцей
На лепшых
Сваіх гасцей.

* * *

Які салавей —
Такія і песні,
І лепш нізашто не спяе,
Хоць трэсні.

* * *

Хто часта
Сварыцца —
Заўчасна
Старыцца.

* * *

Не хапае
З неба зоркі,
Хоць і мае
Погляд зоркі.

* * *

Папала пад хвост
Ляйчына,
Таму
І такі дурачына.

* * *

Дажыве
Да пэўнае пары —
І дзяцініцца
Часам стары.

* * *

Заглядаешся
У чарку —
Не заробіш
На скварку.

* * *

Зарабляў,
Зарабіў,
Загуляў —
І прапіў.

* * *

Праз меру
Дабрата —
Таксама
Дурата.

* * *

Блішчыць
Не толькі дарагое,
Часамі таннае,
Благое.

* * *

Ён і яна —
Вечна вясна,
Пары няма —
Холад, зіма.

* * *

Сям'я —
Маленькая дзяржава,
Дзе ўсё жыццё
Відаць яскрава.

* * *

Смеласць, вядома,
Бярэ гарады...
Добры настрой,
То і дзед малады.

* * *

Час ляціць
Пры заляцанні,
Непрыкметны
Пры каханні.

* * *

Халасцяк
Састарэлы,
Нібы пень
Заімшэлы.

* * *

Што прайшло —
Не вернецца зноў:
Ні ўчарашні дзень,
Ні любоў.

* * *

Адразу
Не гадзіцца
На сем сукоў
Садзіцца.

* * *

Абышоў усе дарогі,
Адбіваў усе парогі
І бацькоўскі парог
Ад няшчасця збярог.

* * *

Сумленню
І добрае веры
Усе расчыняюцца
Дзверы.

* * *

Здольны
Без прынукі —
Майстар
На ўсе рукі.

* * *

Ёсць розуму ў яго
Палата,
Дык і зайздроснікаў
Багата.

* * *

Хлеба луста,
Ёсць капуста,
На стале
Яшчэ не пуста.

* * *

Дзе даліны,
Там горы,
Дзе руіны,
Там гора...

* * *

Сумны
І панурьі —
Аднае
Натуры.

* * *

Цяжка ўзвесці
Свяцёлкі-будовы,
Лёгка ж усё
Зруйнаваць да асновы.

* * *

Што знішчылі
Нямала храмаў,
Таму і стала
Багата хамаў.

* * *

Ёсць людзі ў нас такой пароды,
На жаль, жывучыя яны,
Абдзеліць розумам прырода —
Дык пруць напорыста ў чыны.

* * *

Бяда прыйдзе —
Заплачаш,
Хто твой сябра —
Пабачыш.

* * *

Нібыта цемра
І святло,
Змагаюцца
Дабро і зло.

* * *

Вас хваляць ворагі —
Не верце,
Яны чакаюць
Вашай смерці.

* * *

Спрыт яму здавён
Гэткі дадзены —
Яйкі выме ён
І з-пад гадзіны.

* * *

Недаведзеная
Справа,
Як недаваранай
Страва.

* * *

Жыве і вучыцца
Увесь век
Стаць Чалавекам
Чалавек.

* * *

Веснавей
Павеяў вецер —
Зло людское
Згіне ў свеце.

## ЗМЕСТ

*Гляну, гляну я ў вочы тваё —*
*І ад радасці сэрца пяе*

**Дзеружынскі А.**
Д 43 Веснавей: Песні і вершы. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 207 с.

ISBN 5-340-01401-0.

У пявучай душы паэта нараджаюцца мілагучныя мелодыі, а разам з імі вобразы і малюнкі родных прастораў. У гэтай кнізе сабраны лепшыя творы, якія напісаны ў апошнія гады Авяр'янам Дзеружынскім, аўтарам усім вядомай «Мяцеліцы». Раздзел «Веснавей» напоўнены кароткімі мастацкімі бліскавіцамі, у якіх трапныя занатоўкі аўтара, сказаныя быццам мімаходзь.

Д $\frac{8820600000-036}{М\ 302(03)-94}$ 38—94 **ББК 84Бел7**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дзеружынскі** Авяр'ян Сафонавіч

**Веснавей**

Песні і вершы

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Н. Л. Салаўёва. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, Г. П. Тарасевіч. Карэктар А. Т. Глушчанка.

Здадзена ў набор 18.03.93. Падп. да друку 17.01.94. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,5. Ум. фарб.-адб. 6,63. Ул. выд. арк. 5,74. Тыраж 2200 экз. Зак. 391.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3, 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога» 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.